# Ніва

## БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 39 (657) ГОД XIII 29 ВЕРАСНЯ 1968 г. ЦАНА 60 гр.


# БГКТ

## ПЁТР ЛАСТАЎКА



**19 верасня 1968 года пасля працяглай хваробы сэрца памёр заслужаны беларускі дзеяч Пётр Ластаўка.**

**У асобе П. Ластаўкі наша таварыства панесла цяжкую страту. Ад нас пайшоў адзін з найбольш актыўных дзеячаў БГКТ.**

**П. Ластаўка нарадзіўся 16-га лютага 1907 года ў вёсцы Жукі-Ложныя, Дзісненскага павета, у беднай сялянскай сям'і. Рана страціўшы бацькоў, у 7-ым годзе жыцця пачынае працаваць на сваё ўтрыманне ў багацеяў, спачатку пастухом, а пасля парабкам.**

**Маючы 14 гадоў бярэ ўжо ўдзел у беларускім руху, распаўсюджваючы нелегальныя адозвы, кніжкі і выконваючы іншыя дробныя даручэнні. У пачатку 1926 года ўступае ў рады БСР «Грамады» і стаецца актыўным яе дзеячам і арганізатарам у Дзісненскім павеце. За гэту дзейнасць пад канец 1926 года санацыйныя ўлады арыштоўваюць яго і замыкаюць у павятовым арыштце ў Глыбокім, а ў час ліквідацыі «Грамады» перавозяць у віленскую турму, адкуль, пасля году, звальняюць пад нагляд паліцыі. Пасля вайсковай службы, на пачатку 1930 года П. Ластаўка вяртаецца ў родную вёску і далей працягвае грамадскую працу ў беларускім руху. Праследванні паліцыі змушаюць П. Ластаўку пакінуць родныя мясціны. Едзе ў Варшаву, дзе доўга шукае якой-небудзь працы. Урэшце ўладзіўшы неяк сабе жыццё ў горадзе, бярэцца зноў за грамадскую працу. Арганізуе «Асветнае таварыства беларусаў у Варшаве», якое згуртоўвае ўсе слаі беларускага грамадства ў сталіцы. Самаахвярна працуе ў гэтай арганізацыі сакратаром (аж да вайны 1939 года), аддаючы ёй увесь вольны час, і, неаднаразова, свае галодныя заробкі.**

**У час вайны ў 1941 годзе вымушаны пакінуць Варшаву. Жыве на падляшскай вёсцы. Пасля вайны пасяляецца ў Мілянуўку пад Варшавай. Бярэ актыўны ўдзел у жыцці Варшаўскага аддзела БГКТ. Доўгі час з'яўляецца членам яго праўлення, а пазней і членам Прэзідыума ГП БГКТ. У часе існавання гаспадарчай дзейнасці БГКТ — прамысловага прадпрыемства «Бэтэска» займае пасаду дырэктара (1958—1963).**

**П. Ластаўка займаўся таксама публіцыстычнай і літаратурнай дзейнасцю.**

**Светлая памяць аб дзеячу, арганізатару і патрыёце Пятру Ластаўцы назаўсёды захаваецца ў нашых сэрцах.**

**ГП БГКТ**

# МІЖ З'ЕЗДАМІ

# ГРОШЫ З БАЛОТА

Гэта здзейснілася менавіта між з'ездамі партыі: у наваколлі Юшкавага Груда пачалі з балота — амаль у даслоўным сэнсе — дабываць грошы.

Ад вякоў на вялікім абшары плошчай у звыш 300 га між Міхаловам, Вейкамі, Новай Воляй, Баршчэвам Ціванюкамі і Юшкавым Грудом у Беластоцкім павеце распасціралася непраходнае балотэ. Людзі назвалі яго Імшаром. Імшар палохаў і прыцягаў. Нават зімою небяспечна было туды запускацца. Доступу да яго баранілі бяздонныя, балотныя крыніцы, якія не замярзалі ў найбольш люты мароз. У народзе ішла тады пра Імшар злая слава. Бацькі дзецям з пакалення ў пакаленне пераказвалі казкі і легенды. Ва ўсіх іх Імшар быў сялібай д'яблаў. Не адзін дзядзька бажыўся, што на ўласныя вочы бачыў, як сам Люцыпар уцякаў туды, цягнуўшы за сабою грэшную душу.

І сапраўды, у гэтым балоце, у Імшары, была нейкая невядомая, таемная сіла. Першым чалавекам, які пранікнуў істоту гэтай сілы, быў прафесар Беластоцкай медыцынскай акадэміі, пакойны доктар Славінскі.

Закаханы да смерці ва ўсходніх раёнах Беластоцкага павета, ён пазнаў усе шляхі і сцяжынкі гэтай зямлі. Наваколле Крулёвага Маста называў прафесар «Польскай Швейцарыяй». Яго праніклівасць і навуковая дапытлівасць звярнула таксама ўвагу і на міхалоўска-юшкаўскі Імшар. Пасля доследаў аказалася, што ў гэтым Імшары сапраўды скрываецца вялікая сіла, цудоўная сіла — гэта баравіна, якая мае аздараўляючыя ўласцівасці.

Наш век — век атама — звяргнуў ужо не адну легенду. Так была звергнута легенда пра міхалоўска-юшкаўскі Імшар.

Прафесар Славінскі задумаў вялікую ідэю: марыў, каб недзе ў наваколлі Юшкавага Груда ўзнік вялікі санаторый, у якім імшаравае балота вяртала б людзям сілы і здароўе.

Рэчаіснасць аказалася крыху іншая, але прафесаравы мары астаюцца ўсё актуальнымі і ў недалёкай будучыні яны напэўна здзейсняцца. Пакуль што дасягнута таго, што Імшар перастаў наводзіць жах на людзей, ён ім служыць.

У 1964 годзе на міхалоўска-юшкаўскім балоце паявіліся першыя адважныя людзі. Прывезлі з сабой магутныя машыны. Пачалася асушка Імшара. За гэты час ля шашы між Новай Воляй і Юшкавым Грудом вырас прамысловы пасёлак. За кошт у 15 мільёнаў злотых пабудавана тут прадпрыемства дабычы торфу пад назвай «Імшар».

Дырэктар прадпрыемства Зыгмунт Мінэйка інфармуе нас, што гадавая яго прадукцыя ацэньваецца на суму ў 4 мільёны злотых. Прамысловая эксплуатацыя імшаравага балота распачалася на весну 1966 года. Зараз асвоена каля 70-ці гектараў. Астаецца яшчэ звыш 200 га. Па меры ўсё растучых патрэб прадпрыемства будуць асвойваць далейшыя ўчасткі Імшара. Ужо ў наступным годзе плануецца павялічыць прадукцыю да 10-ці мільёнаў зл. у год. Гэтыя грошы чалавек дабывае проста з балота.

— Да чаго прыдатны ваш торф? — пытаю дырэктара.

— Перш за ўсё, — паясняе ён, — наш торф з'яўляецца высакаякасным угнаеннем, асабліва прыдатны ён пад агародніну. Пасля прымянення гэтага торфу глеба на шмат год карэнна змяняе сваю структуру. Яго якасць высока ацанілі знатныя спецыялісты не толькі польскія. Не так даўно ў нашым прадпрыемстве пабывалі вучоныя з 16-ці еўрапейскіх краін. Іх апінія аказалася лепшай ад нашых найбольш смелых спадзяванняў. Пацвярджэнне гэтаму знаходзім таксама на замежных рынках. Наш торф за долары ахвотна купляюць у многіх краінах Еўропы і ў Паўночнай Амерыцы. Сярод краёвых пакупнікаў найбольш заказаў атрымоўваем з Катавіцкага ваяводства. На жаль, наглядаецца малое зацікаўленне нашым торфам у сялян Беластоцкага ваяводства.

**(Працяг на стар. 4)**

# ЛЮДЗІ і ЧЫНЫ

# АКТЫЎНЫЯ З ДУБІЧ ЦАРКОЎНЫХ

Найбольш чынаў, якія выконвае наша вёска, датычыць пабудовы дарог. Гэта вельмі добра. Дарогі — інвестыцыя вельмі карысная гаспадарам, але не толькі. Нашымі дарогамі пачынаюць захапляцца нават заграничныя госці, а вядома, што Польшча міжваеннага перыяду мела ў гэтай галіне як найгоршую марку.

Дасканалыя «жвіроўкі» можна бачыць на тэрыторыі ГРН **Дубічы Царкоўныя.** У гэтым годзе найбольш вялікай чынавай інвестыцыяй была пабудова дарогі **Грабавец—Тапаркі.** Найбольшую актыўнасць праявілі тут члены камісіі дарог і грамадскай маёмасці ГРН у Дубічах **Аляксей Невядомскі** — старшыня камісіі і **Барыс Петручук** з Грабаўца. Зразумела, што немагчымай была б хуткая пабудова, калі б сюды не ўключыліся такія людзі, як **Мікалай Бялявец** з Дубіч, **Уладзімір Семянюк** з Дубіч ці **Павал Леанюк** з Грабаўца. Іменна гэтых людзей першымі можна было сустрэць на чыне міма, што, напрыклад, з Дубіч на месца чыну адлегласць больш 3 кіламетраў. У Дубічах вельмі вядомы і такі факт, што пры пабудове ўспомненай дарогі працаваў госць з СССР, які пабываў у гасцях у Ул. Семенюка.

Асобнай дзялянкай чынавай актыўнасці з'яўляецца дубіцкі гурток ЗМВ. **Марыся Бялявец** старшыня гуртка ЗМВ расказвае, што яна даведалася аб чыне пазнавата. Але паколькі аб гэтым гаварылася на сходах, пастанавіла хуценька паведаміць сваіх членаў і яны поўнасцю ўключыліся ў працу. Зараз у Марысі большы клопат. Ёсць у Дубічах Царкоўных святліца і ёсць клуб, але няма светліцовага. Перспектыва на толькі не цікавая, што калі не будзе светліцовага — прыдзецца сумаваць. Зразумелыя ў пэўнай меры цяжкасці: ад светліцовага патрабуецца сярэдняй адукацыі, а такіх кандыдатаў няма. Аднак нам здаецца, што 20-ціасабовы калектыў ЗМВ-оўцаў пры дапамозе мясцовых улад і партыйнай арганізацыі развяжа і гэтую справу і то яшчэ перад асенне-зімовым перыядам. У святліцы не толькі павінен працаваць светліцовы, колькі сама моладзь.

Сакратар грамадскага камітэта ПАРП у Дубічах Царкоўных паінфармаваў, што ёсць справы, якіх не пад сілу развязаць на месцы. Напрыклад, пабудова пункта аховы здароўя, на які ўжо ёсць грошы, ці школы ў Грабаўцы, і таму падобных. З гэтымі і падобнымі справамі выступяць дэлегаты на перадз'ездаўскай павятовай канферэнцыі ПАРП у Гайнаўцы.

А. К.



Восень.

Фота: Янка Цялушэцкі

# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

## СВЕТ

### БАІ І КОШТЫ

Насіліліся ў апошнім часе баі ў паўднёвым В'етнаме. Загінула тут ужо трох амерыканскіх генералаў. Загінуў таксама адзін з галоўнакамандуючых рэжымных войск паўднёвага В'етнама. У Сайгоне перапалох, выкліканы партызанскім наступленнем; паявілася таксама пагалоска аб падрыхтоўцы замаху стану, а таксама аб уступным стварэнні новага ўрада, ў складзе якога мелі б знайсціся таксама камуністы.

Кошты в'етнамскай вайны патрабуюць велізарных сродкаў. Палата прадстаўнікоў ЗША зацвердзіла лік 72,2 мільярда долараў, каб пакрыць кошты амерыканскіх ваенных аперацый у цякучым годзе.

### НАРЭШЦЕ ПРЫЗНАЛІСЯ

Міністэрства замежных спраў ЗША прызналася ўрэшце, што затрыманае шпіёнскае судна «Пуэбло» атрымала тайны загад сачыць савецкія ваенна-марскія адзінкі і весці электронны подслух ля ўзбярэжжа паўночнай Карэі.

### ПРАМОВА НАСЕРА

У часе адкрыцця другой часткі пленарнай сесіі Нацыянальнага сходу Арабскага сацыялістычнага кангрэса, (першая пачалася 23 ліпеня) выступіў прэзідэнт ААР Насер. Указаў ён на змену становішча на Блізкім Усходзе. Насер, між іншым, пацвердзіў, што за апошні перыяд узрасла магутнасць егіпецкай арміі. Відавочным доказам гэтага, — сказаў прэзідэнт, — былі нядаўнія здарэнні ў раёне Суэцкага канала, калі егіпецкая армія магла адказаць на ізраільскую агрэсію ў два разы мацнейшым ударам. У далейшай частцы прамовы Насер указаў, што ў апошнім часе народ Аб'яднанай Арабскай Рэспублікі дабіўся значных поспехаў у развіцці народнай гаспадаркі. Прэзідэнт выказаў надзею, што народ ААР і ў будучыні будзе прыкладаць старанні для мабілізацыі краіны на барацьбу за ліквідацыю вынікаў ізраільскай агрэсіі.

### ПАБОЛЬШВАЮЦЬ НАПРУЖАННЕ

Заходнегерманская дыпламатыя ў апошнія тыдні робіць усё, каб павялічыць напружанне ў Еўропе, выкарыстоўваючы да гэтага справу Чэхаславакіі. Спецыяльны пасланец Бон, Бірэнбах, правёў размовы з важнымі палітыкамі ЗША. Размовы ў асноўным датычылі праекта канферэнцыі міністраў замежных спраў краін НАТО, якія прыбудуць на сесію ААН.

### З СССР

Савецкі ўрад прыняў крокі ў справе далейшага павелічэння прадукцыі сельгасмашын і штучных угнаенняў. У 1945 г. выкарыстанне штучных угнаенняў вынесла 1,1 млн. тон, у 1960 г. — 13 млн. тон, у 1966 г. — 35,9 млн. тон. Апошнія пастановы прадбачваюць, што ў 1972 г. прадукцыя вынясе 48 млн. тон. (ак)

## БССР

### МІЦКЕВІЧАМ

Па запрашэнню Цэнтральнага Камітэта Сацыялістычнай Адзінай партыі Германіі ў Берлін адбыла дэлегацыя партыйных работнікаў КПСС на чале з сакратаром ЦК КП Беларусі **У. Міцкевічам.**

### БРЭСЦКАЙ

У Мінску адбыліся Дні Брэсцкай вобласці, прысвечаныя 50-годдзю Беларускай ССР і Кампартыі Беларусі. У сувязі з гэтым на вуліцах і плошчах беларускай сталіцы адбыліся ўрачыстыя зборы, маляўнічыя шэсці, шматлікія імпрэзы. Ва ўрачыстым вечары, што адбыўся ў памяшканні Беларускай дзяржаўнай філармоніі прысутнічалі партыйныя і дзяржаўныя кіраўнікі Беларусі: сакратар ЦК КП Беларусі **А. Смірноў,** першы сакратар Мінскага абкома КПБ **І. Палякоў,** першы сакратар ЦК Камсамола Беларусі **Г. Жабіцкі,** намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР **Р. Кісялёў,** камандуючы войскамі Беларускай Ваеннай Акругі генерал-палкоўнік **І. Трацяк,** міністр культуры БССР **М. Мінковіч,** міністр замежных спраў БССР **А. Гурыновіч** і інш.

### ПЛЕНУМ

Адбыўся пленум Мінскага абкома КП Беларусі, прысвечаны абмеркаванню пытання — «Аб задачах абласной партыйнай арганізацыі па падрыхтоўцы да 100-годдзя з дня нараджэння Уладзіміра Ільіча Леніна».

### УКАЗ

Апублікавана Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР — «Аб узмацненні адміністрацыйнай адказнасці за парушэнне правіл руху на вуліцах гарадоў, населеных пунктаў і дарогах і правіл карыстання транспартнымі сродкамі».

На моцы гэтага Указа будуць уведзены больш вострыя меры. Звязана гэта м. ін. з ростам ліку нешчаслівых дарожных выпадкаў.

### МІКУЛОВІЧ

Першы сакратар Гродзенскага абласнога камітэта Камуністычнай партыі Беларусі **Іван Мікуловіч** узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга за заслугі перад Савецкай дзяржавай і ў сувязі з 50-годдзем з дня нараджэння.

### МІЖНАРОДНАГА

Мінск наведалі ўдзельнікі міжнароднага семінара па пытаннях арганізацыі і інспекцыі працы ў Савецкім Саюзе. Гэты семінар праводзіўся ў Маскве, Мінску і Баку дзяржаўным камітэтам Савета Міністраў Саюза ССР па пытаннях працы і заработнай платы сумесна з Міжнароднай Арганізацыяй Працы.

Сярод прыбыўшых у Мінск знаходзіліся кіраўнікі і супрацоўнікі нацыянальных службаў працы і інспекцыі працы Алжыра, Камбоджы, Конга (Бразавіль), Берага Слановай Косці, Верхняй Вольты, Лівана, Малі, Руанды, Сенегала, Турцыі, Гвінеі, Габона, Тога, Цэнтральнай Афрыканскай Рэспублікі. (С.Я.)

## ПОЛЬШЧА

### СПРАВЫ СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ

21 верасня адбылася ў Пуцку (Гданьскае ваяводства) павятовая выбарчая канферэнцыя партыі, у якой прыняў удзел сакратар КЦ партыі Зэнан Клішка. У сваім выступленні сканцэнтраваўся ён перш за ўсё на праблемах развіцця сельскай гаспадаркі ў гэтым павеце і ва ўсёй краіне. Становішча ў сельскай гаспадарцы Зэнан Клішка акрэсліў як задавальняючае. Паслядоўны ўзрост плёнаў стварае магчымасць абмежавання вельмі нявыгаднага імпарту збожжа. Следам за эканамічным прагрэсам змяняецца ўся культура вёскі. Дасягненні гэтыя сталіся магчымымі дзякуючы вялікім інвестыцыйным сродкам, якія дзяржава пераказала сельскай гаспадарцы.

Кранаючы справы Чэхаславакіі, Зэнан Клішка спыніўся на некаторых праблемах міжнароднага рабочага руху і ўказаў на патрэбу сур'ёзнага тэарэтычнага аналізу некаторых, выступаўшых у ім, адмоўных з'яў.

### СПРАВЫ КРЫТЫКІ

18 верасня адбылася партыйная канферэнцыя ў Прадпрыемстве электрычных лямпаў імя Розы Люксембург. У канферэнцыі прыняў удзел член палітбюро партыі, старшыня Цэнтральнай рады прафсаюзаў Ігнацы Лёга-Савінскі. У сваім выступленні на гэтай канферэнцыі падкрэсліў ён, што партыйная арганізацыя ў сваёй дзейнасці павінна стымуліраваць крытыку з боку рабочага класа, а перад усім дапільноўваць выпраўлення крытыкаваных з'яў. Крытыка павінна дапамагаць людзям у перамаганні іх хібаў, павінна спаўняць выхаваўчую ролю, дапамагаць партыі ў развіванні нормаў сацыялістычнага сужыцця паміж людзьмі. У далейшай частцы свайго выступлення, І. Лёга-Савінскі сканцэнтраваўся на праблемах выхавання моладзі і барацьбы з рэвізіянізмам, указаў на неабходнасць далейшага дзеяння ў напрамку ўмацавання адзінства партыйных радоў, а таксама сувязі партыі з усім народам.

### СПРАВА ЖАНЧЫН

Сакратар ЦК партыі Рышард Стшалецкі сустрэўся 19 верасня ў Цэнтральнай партыйнай школе з жанчынамі — партыйнымі дзеячамі. Падчас сардэчнай, непасрэднай размовы прысутныя паінфармавалі сакратара ЦК аб удзеле жанчын розных асяроддзяў у перадз'ездаўскай дыскусіі. Адначасова звернута ўвага на ўсё яшчэ выступаўшыя цяжкасці ў грамадскім і прафесіянальным авансе жанчын. Выступаючы падчас сустрэчы з прамовай Рышард Стшалецкі даў адказ на закранутыя ў дыскусіі праблемы. Перааналізаваў ён адначасова ўмовы неабходныя для поўнага ўдзелу жанчын ва ўсіх формах кіравання гаспадаркай, а таксама ў грамадскай дзейнасці. Р. Стшалецкі падкрэсліў аграмаднае значэнне ідэйна-палітычнай дзейнасці, указваючы пры тым на асабліва вялікую ролю жанчын у выхаваўчай працы сярод дзяцей і моладзі. (п)

## ВАЯВОДСТВА

### ФРОНТ АДЗІНСТВА НАРОДА

19 верасня г.г. адбылося ў Беластоку пленарнае пасяджэнне Ваяводскага камітэта Фронту адзінства народа. У гэтым пасяджэнні прынялі, між іншым, удзел: І сакратар Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку — А. Лашэвіч, член Прэзідыума Агульнапольскага камітэта ФАН — М. Мажэц, старшыня Ваяводскага камітэта ЗСЛь — Я. Рызнар, старшыня Ваяводскага камітэта Стронніцтва Дэмакратычнага — Р. Бартнік і старшыня Прэзідыума ВРН у Беластоку — С. Жмійка. Удзельнікі пасяджэння абмеркавалі заданні камітэтаў Фронту адзінства народа на Беласточчыне ў сувязі з V з'ездам Польскай аб'яднанай рабочай партыі і 25-ай гадавінай існавання Польскай Народнай Рэспублікі. З праграмнай прамовай выступіў пасол у Сейм Станіслаў Юхніцкі, які адначасова з'яўляецца старшынёю Ваяводскага камітэта ФАН. Адзначыў ён, між іншым, што вялікая ахвярнасць грамадства Беласточчыны праяўляецца, перш за ўсё, у масавых абавязацельствах. За мінулы год грамадскія чыны ацэнены на 176 мільёнаў зл. У гэтым годзе даз'ездаўская кампанія яшчэ больш актывізавала насельніцтва Беластоцкага ваяводства. Амаль тысяча завадскіх рабочых калектываў, прадпрыемстваў і ўстаноў прыняло на сябе даз'ездаўскія прадукцыйныя абавязацельствы, вартасць якіх ацэньваецца на 327 мільёнаў злотых. Значная большасць гэтых абавязацельстваў ужо поўнасцю выканана. Амаль 400 рабочых калектываў спаборнічае зараз за званне «Брыгады сацыялістычнай працы». Выступіў таксама А. Лашэвіч, які падзякаваў дзеячам Фронту адзінства народа за іх ахвярную дзейнасць, а таксама коратка ахарактарызаваў цяперашнюю палітыку партыі. Пленум прыняло пастанову аб дзейнасці камітэтаў ФАН у бліжэйшым часе.

### ВЫСОКІЯ ЎЗНАГАРОДЫ

Рада Дзяржавы прызнала высокія дзяржаўныя ўзнагароды многім сельскагаспадарчым дзеячам і сялянам. Сярод узнагароджаных знайшліся таксама жыхары Беласточчыны. Крыж Кавалерскі Ордэна Адраджэння Польшчы атрымаў Станіслаў Арэхва, які з'яўляецца старшынёю Ваяводскага саюза пчаляроў і кіраўніком станцыі хвароб карысных насякомых у Беластоку. Селяніну з вёскі Ягаднікі ў Гайнаўскім павеце, Уладзіміру Куптэлю прысвоена Залаты Крыж Заслугі. Сярэбраныя Крыжы Заслугі атрымала сем чалавек. Ад імя Рады Дзяржавы гэтыя высокія ўзнагароды ўручыў 18 верасня г.г. намеснік старшыні Прэзідыума ВРН у Беластоку Уладзімір Міхалюк.

### НОВЫ КУЛЬТУРНЫ ГОД

У Кольне адбылася ўрачыстасць з нагоды пачатку новага года культурнай дзейнасці ў Беластоцкім ваяводстве. Удзел у гэтай урачыстасці прынялі дзеячы культуры ўсяго ваяводства. Адначасова ў Кольне быў пераказаны ў карыстанне новы Павятовы дом культуры. (вр)




**NIEDZIELA, 29 września**

8.50 Program dnia. 8.55 ,,Przypominamy, radzimy''. 9.05 ,,Przygody trzech muszkieterów''. 9.30 PKF. 9.40 ,,Olimpiada w Tokio'' — film jap. 11.45 Dziennik. 12.00 III Międzynarodowy Festiwal Pieśni i Tańca w Zielonej Górze. 13.30 ,,Przemiany''. 14.00 Teatrzyk dla przedszkolaków. 14.40 ,,Polacy na frontach II Wojny Światowej'' — film dok. pol. odc. V. 15.05 Felieton TV. 15.20 ,,Spotkanie z pisarzem''. 15.50 Losowanie Toto lotka. 16.00 Sprawozdanie sportowe. 16.50 ,,Ukochany kraj, umiłowany kraj'' — teleturniej. 17.20 ,,Ludzie i zdarzenia''. 17.35 ,,Sezam muzyczny''. 18.25 ,,Klub sześciu kontynentów''. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Przekładaniec'' — film TVP. 20.50 XII Międzynarodowy Festiwal Muzyki Współczesnej ,,Warszawska Jesień'' — koncert finałowy. 21.40 ,,Ewa i niedziela'' — film (,,Ewa''). 22.05 Niedziela Sportowa.

**PONIEDZIAŁEK, 30 września**

15.35 Program dnia. 15.40 i 22.05 Politechnika TV, kurs przygotowawczy. 16.45 Dziennik. 16.55 ,,Kino Ptyś''. 17.25 ,,Spacerkiem po kinach''. 17.55 ,,To, czego chcecie'' — film węg. 18.10 TV Magazyn Postępu Technicznego. 18.40 ,,Poligon''. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: W. Zalewski — ,,Ranny las''. 21.15 ,,Panorama Literacka''. 21.45 Dziennik.

**WTOREK, 1 października**

11.00 ,,Zwykła historia'' — film fab. radz. 12.30 i 15.05 Przysposobienie Rolnicze: ,,Opłacalność stosowania wysokich dawek nawozów mineralnych''. 13.05 Przerwa. 15.00 Program dnia. 15.40 i 22.30 Politechnika TV I roku. 16.45 Dziennik. 16.55 ,,Fizyka na czterech kółkach''. 17.15 ,,Zapraszam na wtorek wieczór''. 17.45 ,,Nie tylko dla pań''. 18.05 TV Kurier Warszawski. 18.20 ,,Po szóstej''. 18.55 Recital piosenkarski Barbary Rylskiej. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Cena zdrady'' — film fab. wł. 21.40 ,,Dzień dobry, uczelnio!'' 22.10 Dziennik.

**SRODA, 2 października**

10.05 ,,Człowiek z Kanady'' — film NRD cz. I. 10.55 Dla szkół: (kl. VIII) Chemia: ,,Ropa naftowa''. 11.25 Przerwa. 11.55 Dla szkół (kl. VII) Chemia: ,,Poznajmy metale''. 12.55 Przerwa. 15.10 Program dnia. 15.15 ,,Matematyka w szkole'' — ,,Wprowadzenie w geometrię płaszczyzny''. 15.45 i 22.15 Politechnika TV, kurs przygotowawczy. 16.50 Dziennik. 17.00 Dla dzieci: ,,Studio Kwant'' — program TV radz. 17.30 Sprawozdanie sportowe. W przerwie PKF. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Człowiek z Kanady'' — film NRD cz. I. 20.55 ,,Swiatowid''. 21.25 ,,Twórcy muzyki współczesnej''. 21.55 Dziennik.

**CZWARTEK, 3 października**

10.55 ,,Człowiek z Kanady'' — film NRD cz. II 11.55 Dla szkół (kl. V) Historia: ,,W cieniu piramid''. 12.25 Przerwa. 12.45 Dla szkół (kl. II lic.) Język polski: ,,Goethe — Byron — Puszkin''. 13.15 Przerwa. 15.35 Program dnia. 15.40 i 22.55 Politechnika TV I roku. 16.45 Dziennik. 16.55 ,,Ekran z bratkiem''. 18.00 ,,Z kamerą po świecie''. 18.15 ,,Na morskich szlakach''. 18.40 ,,Polska pieśń ludowa''. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Trybuna Telewizyjna''. 20.40 ,,Człowiek z Kanady'' — film NRD cz. II. 21.40 ,,Magazyn Medyczny''. 22.10 ,,Spotkanie z piosenką'' — film estr. franc. 22.35 Dziennik.

**PIĄTEK, 4 października**

9.55 Dla szkół (kl. VII) Zajęcia techniczne: ,,W świecie sztucznych tworzyw''. 10.25 ,,Czterdzieści minut przed świtem'' — film fab. radz. 11.40 Przerwa. 15.35 Program dnia. 15.40 i 22.40 Politechnika TV, kurs przygotowawczy. 16.45 Dziennik. 16.55 ,,Miś z okienka''. 17.10 TV Kurier Mazowiecki. 17.25 ,,Kiedy trzeba podjąć decyzję''. 17.55 Film rozrywkowy. 18.15 Wszechnica TV: ,,Człowiek i Kosmos''. 18.45 ,,Sylwetka karykaturzysty'' — Edward Ałłaszewski. 19.05 ,,Górnicy z Ravi'' — film dok. wł. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Jak mieszkać''. 20.35 Teatr TV. J. Słowacki: ,,Król Agis''. 22.05 ,,Rozmowy o książkach''. 22.20 Dziennik.

**SOBOTA, 5 października**

10.45 ,,Intermezzo'' — film fab. USA. 11.55 Dla szkół (kl. VI) Geografia: ,,Z geologicznej przeszłości Polski''. 12.15 Przerwa. 14.55 Program dnia. 15.00 TV Kurs Rolniczy: ,,Pomoc audiowizualna w masowym szkoleniu rolniczym''. 15.35 Program tygodnia. 16.00 Dla młodych widzów: ,,Sport i zabawa''. 16.45 Dziennik. 16.55 ,,Biega, śpiewa, maluje...'' — turniej Liceów Pedagogicznych dla Wychowawczyń Przedszkoli (Warszawa — Poznań). 17.55 ,,Spotkania z przyrodą''. 18.20 ,,W przestworzach czyli ciekawe opowieści lotników''. 18.35 ,,Warszawa, ja i Ty''. 19.20 Dobranoc. 19.30 ,,Monitor''. 20.10 ,,Pegaz''. 20.55 Teatr Rozrywki: Hennequin i Veber — ,,Pani Prezesowa'' — farsa w 3-ch aktach. 22.35 Dziennik. 22.50 Wiadomości sportowe. 23.00 ,,Intermezzo'' — film fab. USA.




**PIĄTEK, 27 września**

7.30 ,,Powierzchnia Białorusi'' (dla szkół). 8.05 Dziennik. 8.15 Dla przedszkolaków. 9.00 ,,Na polach kraju''. 9.30 ,,Kultura fizyczna i sport''. 10.00 Teatr literacki. 14.00 Program dnia. 14.05 ,,Na dnie''. Film II seria. 15.20 ,,Nowości''. 15.30 Festiwal filmów dokumentalnych''. 15.40 ,,Cena przyjaźni''. 16.20 ,,5+2''. 16.50 ,,Cymbały dźwięczą na wszystkich kontynentach''. 17.30 TV barwna. 18.30 ,,Sztafeta nowości''. 19.30 ,,Drogi walki''. Film fabularny. 20.50 ,,Praca w życiu dziecka''. 21.15 ,,Sala tańców''. 21.45 ,,Tylko fakty''.

**SOBOTA, 28 września**

6.25 Program dnia. 6.30 Dla uczniów szkół technicznych. 7.00 Gimnastyka. 7.45 Dziennik. 8.00 ,,W dniu imienin''. 8.30 ,,Reportaż sobotni''. 9.00 ,,Zdrowie''. 9.30 ,,Obiektyw''. 10.15 ,,Jubileusz mistrza''. 10.30 TV teatr dla dzieci. 11.45 W eterze ,,Młodość''. 12.45 ,,Ustne opowiadania''. 13.45 Teleturniej. 14.25 ,,Szkatułka muzyczna''. 14.45 ,,50 dni''. 15.15 ,,Świat socjalizmu''. 15.45 ,,Płomyk''. 16.45 ,,Pieśni komsomolskie''. 17.00 R. Baradulin. ,,Nierusz''. 17.30 Festiwal laureatów. 20.30 Festiwal filmów fabularnych.

**NIEDZIELA, 29 września**

6.25 Program dnia. 6.30 Dla uczniów szkół technicznych. 7.00 Gimnastyka. 7.15 Dziennik. 7.30 ,,Budzik''. 8.00 Film animowany dla dzieci. 8.40 Dla uczniów. 9.10 Dla dzieci. Spotkanie z pisarzami białoruskimi. 10.00 Kronika filmowa. 10.15 Dla uczniów. 11.00 ,,Kurhan Mamaja''. 11.30 Artystka ludowa RSFRR C. Monsurowa. 13.00 ,,Kiosk muzyczny''. 13.30 Kalendarz TV. 14.00 ,,Radar''. 14.30 TV barwna. 16.00 ,,Człowiek ziemi mojej''. 16.25 ,,Klub robotniczy''. 17.10 ,,Niewolnica Kaukazu''. Film fabularny. 18.30 ,,Siedem dni''. 19.15 ,,Almanach muzyczny. 21.25 ,,Tylko fakty''.

 

ПАРТЫЯ І Я

# ЦЕСНЫ ВУЗЕЛ

Павел Альшэўскі не скрываў свайго здзіўлення. Якія мае адносіны да партыі? — адхіліўся на спінку крэсла і задумаўся, як бы рабіў падлік свайго жыцця.

Жыве ён у пасёлку Боцькі на Бельшчыне. І там працуе старшынёй праўлення Гміннай спулдзельні сялянскай самапомачы. Усё яго дарослае, самастойнае жыццё звязана менавіта з боцькаўскім ГС-ам. Распачаў у ім працу 10 студзеня 1950 года на пасадзе звычайнага канцэліста. Было яму тады 23 гады. Толькі што вярнуўся з войска, у якім служыў добраахвотнікам. Вярнуўся з апініяй актыўнага дзеяча Саюза польскай моладзі. У Боцьках тады такіх людзей лічылася на пальцах. Немалой патрабавалася адвагі, каб паяўляцца на вуліцах пасёлка з эмблемамі гэтай баявой маладзёжнай арганізацыі. Гэта ж тут яшчэ не зусім высахла кроў пасля расстрэленых бандамі і павешаных імі на калючым дроце міліцыянераў.

— А ведаеце, — пасля даўжэйшага маўчання адазваўся неяк заклапочана, — вось думаю я пра гэта, думаю і неяк не магу раздзяліць спраў партыйных ад прафесіянальных, ад уласнага асабістага жыцця. Усё гэта неяк звязалася і сплялося ў адзін цесны вузел.

Я ў партыі ўжо 17 год — ад 1951 года. Нічога геройскага не зрабіў я ў жыцці. 18 год працую на адным месцы, 15 год з'яўляюся ўжо старшынёю праўлення тутэйшага, боцькаўскага ГС-у. І толькі. Але ў ва ўсім, што рабіў я, як старшыня, і наш ГС, як гандлёва-гаспадарчая ўстанова — ва ўсім гэтым заўсёды адчувалася дух і руку партыі. То ж імкненні і намаганні партыі канчаткова зводзяцца да таго, каб нам спакойна і ўсё лепш жылося.

Зараз пакажу вам на прыкладзе нашага ГС-у. Калі стаў я старшынёю, наш ГС меў — дакладна ўжо не памятаю — 4 або 5 крамаў, якія толькі з назвы прыгадвалі гандлёвыя пляцоўкі. Яго бюджэт завяршаўся сумай у нейкіх 15 мільёнаў злотых, пастаянна ехалі мы на затратах. Зараз бюджэт наш складае суму ў 50 мільёнаў злотых і штогод выпрацоўваем мы прыбытак. У 1961 годзе за кошт паўтара мільёна злотых пабудавалі мы вось гэты вясковы таварны дом, у якім змяшчаецца аж 6 крамаў і бюро ГС-у, новыя мураваныя крамы атрымалі таксама вёскі: Нурэц, Снежкі, Сабяціна і зарэчная частка пасёлка Боцькі. Зараз за кошт у звыш 6 мільёнаў злотых будуем ГС-аўскую базу, маем новыя склады для збожжа і штучных угнаенняў. Гэта ўсё, каб выгадней, каб лепш нам жылося.

Так вось гляджу я на праблему «партыя і я» з прафесіянальнага боку. Але — я ўжо сказаў — нельга раздзяліць спраў прафесіянальных ад чыста прыватных, сямейных. Дык паглядзім на гэта і з хатняга боку.

Было ў нас у бацькоў двух сыноў і адна дачка — якраз столькі, колькі зараз дзяцей у мяне. Бацька меў тры гектары зямлі. Часам удавалася яму з канём і падводай наняцца на дзень да нейкага яўрэя — уласніка крамы. Зарабіў тады паўтара — два злотых за дзень цяжкай працы і гэты дзень лічыўся ў нас шчаслівым. Зараз мне, калі спатрэбяцца тэрмінова рабочыя, цяжка знайсці чалавека да разгрузкі тавараў за 100—150 злотых у дзень.

Раз у год калоў бацька для сябе нейкага парсючка, а восенню часам рэзаў авечку або барана. Мясную страву елі мы тады толькі з нагоды і нейкага свята. Памятаю, марылі, каб быць шаўцом, кавалём або краўцом. І гэтыя мары былі не вельмі рэальнымі.

Зараз мой найстарэйшы сын Раман вучыцца ў Бельскім тэхнікуме. малодшыя — сын і дачка — яшчэ ў пачатковай школе. Усе яны ўяўляюць сабе будучыню з дыпломамі ў кішэнях. Ад іх здольнасцей і ад іх працавітасці залежыць, ці гэтыя мары здзейсняцца, толькі ад іх.

А я сам? Распачынаючы сваю прафесіянальную працу ў тутэйшым ГС-е зарабляў 360 злотых у месяц, зараз мая месячная зарплата перавышае тамтую якраз на 3000 злотых.

Павел Альшэўскі зацягнуўся папяросным дымам, хвіліну падумаў і дабавіў:

— Выбачайце, я хіба не зусім слушна сказаў. Партыя нічога гатовага нікому не дае. Гэта проста кожны з нас збірае плады нашай супольнай, штодзённай працы, якой кіруе партыя.

Старшыня Павел Альшэўскі спяшаўся на будову новай базы. Дык я не спыняў яго далейшай гутаркай. Прыходзіцца тады дабавіць ад сябе, што ад 1964 года з'яўляецца ён сакратаром Грамадаўскага камітэта ПАРП у Боцьках, 4 разы падрад выбіралі яго грамадскім заседацелем Павятовага суда ў Бельску, ад пачатку кіруе ён Грамадаўскім камітэтам Фронту адзінства народа, старшынствуе надзорчай радзе спулдзельчага банка, актыўна працуе ў гаспадарча-фінансавай камісіі боцькаўскага ГРН.

**Віктар Рудчык**



# БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

Ад 1 кастрычніка г.г. паступае ў продаж **пласцінка «Беларускія песні»** ў выкананні **Міхася Забэйды-Суміцкага.** Выдаўцом пласцінкі з'яўляецца Галоўнае Праўленне БГКТ. Пласцінку, якой **цана 50 зл,** можна будзе купіць у Аддзелах БГКТ і ў магазінах з пласцінкамі. Пласцінку выканалі «Польскія награня Муза» ў Варшаве.

Вядомаму спеваку Міхасю Забэйдзе-Суміцкаму акампаніруе аркестр мандаліністаў Эдуарда Цюкшы. На пласцінцы знаходзім запісаных 11 беларускіх народных песень. А вось іх загалоўкі: А. Туранкоў — «Ай, мама, мама, чаго я плачу», А. Грачанінаў — «Ой, рана, рана куры запелі», С. Казура — «Чырвоная каліначанька», А. Грачанінаў — «Конь бяжыць, зямля дрыжыць», К. Галкоўскі — «Ой, дождж ідзе», А. Туранкоў — «Каліна», К. Галкоўскі — «Кукавала зязюленька», А. Пэк — «Калыханка», М. Красеў — «Хлопец пашаньку пахае», С. Казура — «Малады дубочак», А. Грачанінаў — «Шчука рыба ў моры».

Пласцінка мае вельмі прыемную і добра выкананую вокладку. (ак)

УВАГА, НАСТАЎНІКІ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ!

## „БЕЛАРУСКАЕ СЛОВА" ДЛЯ ЧАЦВЁРТАГА КЛАСА

Ужо ў першым кастрычніцкім нумары пачынаем друкаваць фрагменты з новага падручніка беларускай мовы для чацвёртага класа. Новы падручнік выйдзе з друку толькі ў будучым годзе. Прапануем карыстацца ім ужо цяпер пры дапамозе «Зоркі». Штотыдзень у «Зорцы» можна будзе знайсці патрэбны да ўрока матэрыял: апавяданні, вершы, пытанні і заданні да іх, некаторыя звесткі з беларускай граматыкі.

Прыпамінаем, ужо ад саракавога нумара «Зоркі» друкуем новае «Беларускае слова» для IV класа ў апрацоўцы Лідзіі і Мікалая Гайдукоў. (яч)

## НОВАЯ ЛІТАРАТУРА ДЛЯ БІБЛІЯТЭК

Як нас паведаміла Кураторыя школьнай акругі ў Беластоку кнігарні «Дома кніжкі»: **у Беластоку № 18, вул. Кілінскага, Бельску, Гайнаўцы, Сямяцічах і Саколцы** атрымалі новую літаратуру на беларускай мове. Гэтая літаратура з'яўляецца вялікім дапаможнікам у рэалізацыі праграмы навучання беларускай мовы і ў выхаваўчай працы з дзяцьмі і школьнай моладдзю.

Ніжэй падаем спісак кніжак, якія знаходзяцца ва ўспомненых кнігарнях з адначасовай інфармацыяй, што кніжкі ад 1 да 12 пазіцыі павінны быць закуплены для ўсіх школьных бібліятэк, дзе навучаецца боларускую мову, а апошнія для школ з класамі V — VIII і ліцэяў.

1. Т. Хадкевіч — Жыла была казка
2. А. Лойка — Сустрэча з днём сягонняшнім
3. — П'есы для школьнай самадзейнасці
4. В. Хомчанка — Зімовы дождж.
5. В. Шыцік — Зорны камень
6. Ф. Звяровіч — Літаратурныя вечарыны
7. Плакат па творчасці П. Глебкі
8. Плакат I па творчасці Я. Купалы
9. Плакат II па творчасці Я. Купалы
10. Плакат I па творчасці Я. Коласа
11. Плакат II па творчасці Я. Коласа
12. Лалеўский — Кукольный театр в школе (на рускай мове)
13. Беларусь — альбом
14. У. Казбярук — Я. Колас у школе
15. Я. Пушча — Лірыка
16. К. Кабузева — Наш дарагі Ільіч
17. Ф. Багушэвіч — Выбранае
18. Янкоўскі — Роднае слова
19. І. Науменка — Янка Купала
20. Н. Гілевіч — Першовы. Вершы
21. М. Лынькоў — Летапіс эпохі
22. А. Боган — Родная літаратура для кл. X
23. Майхровіч — Слова аб палку Ігаравым
24. П. Макаль — Акно (вершы)
25. Рудніцкі — Служба святла (вершы).

Апрача ўспомненых кніжак, кнігарні гэтыя маюць іншую літаратуру на беларускай мове.

Аб прапановах і цяжкасцях адносна беларускай літаратуры просім інфармаваць нашу рэдакцыю. (ак)

## ЯК ПАДПІСАЦЦА НА „НІВУ" Ў БССР

Да нас часта звяртаюцца савецкія грамадзяне з пытаннем: «Як падпісацца на «Ніву» ў БССР?» Адказваем: Падпіску на «Ніву» ў БССР прымаюць тыя самыя ўстановы, што і на польскі друк. Як нам вядома, многія нашы савецкія чытачы выпісваюць «Ніву» на месцы.

# ПРЫКЛАД ДОБРАЙ РАБОТЫ

Каля 600 вучняў міхалоўскіх школ прыймала ўдзел у пабудове грамадскім чынам дарогі Міхалова-Падазярань. Ініцыятыва выйшла ад дырэктара агульнаадукацыйнага ліцэя ў Міхалове **Васіля Нядзведзкага.** І можа не прысвячалі б толькі месца гэтай справе, калі б усяму гэтаму не прысвячала спецыяльная мэта. Аб ёй іменна хочацца шырэй расказаць.

Тэзісы на V з'езд, між іншым, гавораць: «Мэтай сацыялістычнага выхавання з'яўляецца ўмацаванне разумовых і пачуццёвых сувязей з новым ладам, любві да нашай айчыны — Народнай Польшчы; навучэнне пашаны для працы і гатоўнасці да стаўлення публічнага дабра, як найвышэйшай вартасці... «Прымяніць у практыцы гэты тэзіс пастанавілі педагогі з Міхалова. У чым заключаецца новае арганізаванага чыну?

Першай і асноўнай справай — гэта выхаваўчыя эфекты працы. Разыходзіцца пра тое, каб чын пры такой колькасці вучняў распрацаваць магчыма найлепш з арганізацыйнага боку, каб навучыць як працаваць, а не прызвычайваць да працы на выгляд. Арганізацыя чыну павінна напамінаць працу ў фабрыках ці прадпрыемствах. У чым гэта заключаецца — растлумачым. У чыне прыняло ўдзел тры школы: агульнаадукацыйны ліцэй, прафесіянальная школа і старэйшыя класы пачатковай школы. Разыходзілася пра масавасць, але адначасова пра спаборніцтва між школамі. Каб гэта можна было здзейсніць і актывізаваць усіх прымаючых удзел у чыне, арганізавана спаборніцтва між класамі данай школы. Паколькі ў класах вялікая колькасць вучняў, створана на ўзор брыгад працы сацыялістычнай групы па 10—12 чалавек, якія таксама між сабой спаборнічалі. Кожная з такіх груп-брыгад мела вызначаную дзялянку працы заўчасу.

Задоўга наперад, у школах вялася падрыхтовачная праца. Настаўнікі на педсавеце і на сходах партарганізацыі абмяркоўвалі спосабы як найлепшай педагагічнай апекі, пры адначасовай поўнай свабодзе ініцыятывы вучняў. Зрэшты, настаўнікі таксама мелі прыняць нармальны ўдзел у працы. Непасрэдна, сярод школьнай моладзі, працу праводзілі школьныя арганізацыі ЗМС, ЗМВ і ЗГП. Настаўнікі і выхаваўцы тлумачылі ім, што спаборніцтва залежыць толькі ад іх саміх.

Мерапрыемства было добра распрацавана і з прапагандовага боку. На месца чыну запрошана прапагандовы самаход ЛОК, які на месцы, праз гучнагаварыцель, падаваў вынікі спаборніцтва. Адразу на месцы адбылося абвяшчэнне вынікаў спаборніцтва і ўручэнне перадавым дыпломаў. На месцы, дзе працавалі вучні, віднеў асноўны лозунг: «Узмоцненай навукай і працай вітаем V з'езд партыі». Уся дарога мае быць аддана ў карыстанне да пачатку V з'езда ПАРП і наіменавана імем V-га з'езда.

За працу вучням прадбачана пэўную сімвалічную заплату, якую яны ўрачыста перакажуць на пакупку таксама сімвалічных падарункаў для воінаў Войска Польскага, якія знаходзяцца ў Чэхаславакіі.

Пасля працы пры кастры адбыўся супольны мітынг, прысвечаны 29 гадавіне нападзення гітлераўскай Германіі на Польшчу і 25 гадавіне паўстання народнага Войска Польскага.

Пасля ўспомненых мерапрыемстваў ад 16 да 19,30 гадзіны запланавана зазнаўчую вечарыну моладзі, якая прыняла ўдзел у чыне.

Цяжка пісаць аб эфектах міхалоўскай канцэпцыі выхавання працай, таму што не давялося там быць у дзень чыновай працы. Магчыма, што былі пэўныя недахопы звязаныя з самымі школамі, як і з тымі, хто быў суарганізатарам чыну. Але ж не ў гэтым справа. Найважнейшае ў тым, што педагогі правінцыянальнага мястэчка, па меры сваіх магчымасцей, стараюцца прымяняць у практыцы заданні выхавання новага чалавека згодна з тым, да чаго імкнецца грамадства, і што ставіць асабліва моцна партыя ў перадз'ездаўскі перыяд. Ініцыятыву міхалоўскіх настаўнікаў і вучняў трэба не толькі пахваліць, але і распаўсюдзіць.

**Аляксей Карпюк**



 

## У ПОШУКАХ ШЧАСЦЯ

# Акцёры касмічнай драмы

Люблю залатую, сонечную восень. Гэта апошні акт вялікай касмічнай драмы. Люблю сум апусцелых асенніх палёў, пах глебы змешанай з гноем, дым з-па-над бульбяніскаў, які паўзе нізка над зямлёю.

Сум асенні снуецца павуціннем паабапал вясковых гасцінцаў. Страшыць шырынёю мёртвых загонаў, сцелецца густымі імгламі над далінамі-адвячоркам. Сум кожнай былінкі, кожнай мушкі ў трагічным чаканні на няўхільную, непазбежную смерць каляровых палёў і зялёных лугоў.

Як жа тады можна любіць смутак, — простае запярэчанне ўсялякай радасці. Люблю аднак смутак трывожнай, няўхільнай і безнадзейнай восені, бо яе непазбежнасць, няўхільнасць і суровасць больш чым усё іншае дазваляюць адчуць халодны подых прыроды. Адчуць усё яе нутро, яе душу, яе «чалавечнасць». Бо што можа быць больш чалавечае, як спакойная меланхолія сонечнай восені?

Выязджаю тады штогод за горад там, дзе калісьці квітнела, буйнілася жыццё, каб гледзячы на яго ціхую агонію адчуць адвечную драму змагання дзвюх супрацьлеглых сіл — сілы распаду і ўзнікнення.

Мой добры дзядзька Максім са Старой Вёскі перажываў гэтую драму ўвесь круглы год. Космас, увесь сусвет былі вялікай сцэнай, на якой перад дзядзькавымі вачыма разыгрываўся безупынна вялікі спектакль. Кульмінацыйнымі момантамі гэтага спектакля была вясна ды восень, калі змаганне сіл жыцця і сіл смерці ставалася асабліва заўзятым, выходзіў, скажам, мой дзядзька на прадвесні ў поле, аж пад лес, на мокрыя лугі, а вярнуўшыся, заяўляў з энтузіязмам у голасе:

— Жаваранкі ўжо прыляцелі! За які тыдзень павінны прыляцець шпакі.

І ўсе ў хаце ведалі, што вясна пачынаецца не на жарты.

Прыход вясны не заўсёды быў аднак простым і адназначным. Зіма часта доўга не здавалася: пасля цёплых дзён вярталіся халады ды марозы. Дзядзька Максім моцна перажываў кожны такі паварот, кожную нерэгулярнасць у прылёце птушак, у квітненні першых кветак, у першых лістках на бярозах.

— За тыдзень благавешчанне, а буслаў штосьці зусім не відаць, — гаварыў, бывала, дзядзька ўсур'ёз непакоячыся спозненым падарожжам даўгадзюбых з цёплых краін.

Народ у Старой Вёсцы не абмяжоўваўся аднак да простага назірання прыроды, ды спачування сілам жыцця ў выпадку іх няўдачы. Народ уключаўся ў касмічны кругаварот, з'яўляючыся ў гэтай барацьбе адным са змагаўшыхся бакоў. Этнографы запісалі беларускія абрады прывітання вясны, святкаванні купалы, сёмухі ды мноства розных звычаяў і абрадаў звязаных з жыццём прыроды. Падчас гэтых абрадаў, якіх першапачатковай мэтай была дапамога сілам жыцця, сонца і плённасці, узбуджанне іх магічнымі сродкамі, сілай чалавечай волі і жадання — чалавек з назіральніка ставаўся акцёрам касмічнай драмы.

Пакіньма аднак дзядзьку Максіма. Вялікі польскі пісьменнік, расслаўлены нобелеўскай прэміяй на ўвесь свет — Уладзіслаў Рэймант, даў лепшы вобраз сялянскага жыцця і яго сувязі з прыродай. Сваю вялікую кнігу «Сяляне» падзяліў на чатыры тамы пад загалоўкамі: Восень, Зіма, Вясна, Лета. Кожны том пачынаецца ад падрабязнага лірычнага апісання з'яў заходзячых у прыродзе ў акрэсленую пару года. Людскія справы, клопаты, эмоцыі і турботы дзеюцца ў неразрыўнай сувязі са зменамі ў прыродзе і з абрадавым календаром сялян. Людзі перажываюць гэтыя змены эмацыянальна, прырода перажывае праблемы рэймантаўскіх сялян. Словам — — узаемаспачуванне і ўзаемаразуменне.

У сучасных кніжках Капі, Сартра ці Кафкі прырода адсутнічае зусім. Чалавек са сваімі праблемамі адзінокі ва ўсім космасе. Рэймант расказваў у сваёй кнізе сумную гісторыю аб няшлюбным каханні прыгожай Ягусі да жанатага Антка. Але вялікая, зразумелая ўсім, трагедыя Ягусі куды ж менш сумная ад трагедыі герояў многіх сучасных аўтараў, герояў, якіх трагічнасць не ў цяжкіх абставінах жыцця, але якія трагічныя самі па сабе без ніякай здавалася б прычыны. Бо трагедыя чалавечага існавання пачынаецца тады, калі стаецца ён выізаляваны з натуральнага асяроддзя прыроды.

І таму так вельмі люблю сумную восень. Сум свой магу тут дзяліць з кожнай былінкаю і кожнай мурашкаю, з шырокімі разлогамі, буйнымі лясамі, чорнымі хмарамі.

**Рыгор Паўлюк**

## Ў ПАВЯТОВАЙ РАДЗЕ Ў ГАЙНАЎЦЫ

У ліпені г.г. камісія забеспячэння насельніцтва Павятовай рады народовай у Гайнаўцы правяла кантроль пляцовак ГС-у ў Нараўцы супольна з камісіяй ральніцтва і забеспячэння насельніцтва ГРН. На пачатку жніўня правяла ацэнку плана кантрактацыі збожжа і падрыхтоўку да скупу ўраджаю з 1968 года.

Шматлікія прапановы ўнесены камісіяй разглядаў і прыняў да рэалізацыі Прэзідыум ПРН у Гайнаўцы.

Да канца года камісія разгледзіць яшчэ 4 асноўныя праблемы. (ак)



Таня і асенняе возера. Фота: С.Я.

## ШТО БУДЗЕ РАБІЦЬ ЗГП

Распачаўся новы 1968/69 год гарцэрскай працы. У сувязі з заданнямі, якія ставяць перад маладзёжнымі арганізацыямі тэзісы на V з'езд партыі, у Беластоцкім ваяводстве ЗГП у гэтым новым годзе будзе рэалізаваць шматлікія мерапрыемствы.

**У кастрычніку** (13.X.) ва ўсіх дружынах адбудуцца ўрачыстыя кастры і вечарыны пад лозунгам «Народнай Польшчы — сэрцы, думкі, чыны». 13 кастрычніка паасобныя дружыны вышлюць таксама свае рапарты аб рэалізацыі з'ездаўскага чыну.

**У лістападзе** будзе ўрачыста адзначацца Дзень памершых, Дзень настаўнікаў. а таксама падрыхтоўка да «белых канікулаў».

Месяцы **снежань, студзень і люты** — гэта час «белых канікулаў», катання на санях, іграў і гульняў на снезе і карнавальных баляў. Перад 21.I. адбудзецца падсумаванне I этапу (які пачаўся 15.IX) кампаніі «Улюбёны край» і пачатак II этапу. У гэтым часе пачнецца падрыхтоўка да лагернага і нялагернага лета.

**Сакавік, красавік і май** будуць прысвечаны святкаванню Дня жанчын, Дня перамогі, мацеры, адзначэнню 1 мая. Шырока будуць арганізаваны турысцкія паездкі, бівакі і экскурсіі. Перад 4 мая адбудзецца падсумаванне кампаніі «Улюбёны край».

Друкуем гэты рытм працы гарцэрскай арганізацыі з думкай, што пацікавяцца ім іншыя арганізацыі, якія дзейнічаюць на вёсцы і прыйдуць гарцэрам з выдатнай дапамогай. (ак)

# Грошы з балота

(Працяг са стар. 1)

Ці ж бы яны не ведалі пра яго вялікія дабрадзействы?

— Якія карысці прынесла пабудова вашага прадпрыемства для сялян навакольных вёсак?

— Гэты куток зямлі, як самі ведаеце, ніколі не меў ніякай прамысловасці. Наша прадпрыемства дае працу ў сярэднім для амаль 100 рабочых. Гэта людзі з тутэйшых вёсак. У год прыпадае ім за працу ў нас прыблізна 300 тысяч злотых. Але не толькі гэта Каб дабываць торф, мы асушылі балота. Пасля эксплуатацыі плошча будзе заворана і загаспадаравана. Даўнейшая недаступная дрыгва пераўтворыцца ў высакаякасную сенажаць.

— А што з ідэяй лячэння людзей імшаравай баравінай?

— Яе не пакідаем. Зараз Міністэрства здароўя праводзіць дакладныя выпрабаванні нашай баравіны. Прадбачваем, што ў 1970 годзе пачнем прамысловую яе дабычу. Наша баравіна будзе вяртаць здароўе і сілы людзям у розных санаторыях краіны.

Ці гэта трэба разумець так, што няма ніякіх шанцаў на пабудову лячнічага санаторыя тут на месцы?

— І так, і не. Бачыце, апрача баравіны тут на месцы няма нічога цікавага для дачнікаў. Можа пасля пабудовы вялікага вадаёму на Нарве ля вёскі Бандары — можа тады будуць створаны спрыяльныя ўмовы для пабудовы санаторыя над берагамі штучнага возера. Ведаю, што нашыя ўлады прадбачваюць такую магчымасць.

Бачыце, вось якім чынам з балота дабываюць грошы. Так на практыцы ажыццяўляецца разумная палітыка нашай партыі.

**Віктар Рудчык**

# ІНТЭРВ'Ю З Эўгеніушам ПАЎКШТА

Да вядомага познанскага пісьменніка Эўгеніуша Паўкшты, сардэчна звязанага з былой Заходняй Беларуссю, звярнуліся мы з наступнымі пытаннямі:

**Ваш раман «Przejaśnia się niebo», асабліва яго першы том, чытаецца як фрагмент буйнага жыцця, буйнасць якога смакуецца толькі цяпер, з перспектывы ўжо ладу і спакою. Настрой кніжкі несумненна зацікавіць таксама чытача і ў нашых беларускіх вёсках Беласточчыны, якія — перанаселеныя некалі — «выбухнулі» на Заходнія землі. Цікава нават ведаць некалькі фактаў Вашага жыцця ў той перыяд?**

У канцы 1945 года прыбыў я ў краіну ў якасці рэпатрыянта. Узнікла праблема пошукаў уласнага месца, запушчэння карэнняў, шукання зближэнняў з новай зямлёю і новымі людзьмі. Пачаў я працаваць у Польскім Заходнім



Саюзе, прымаючы там вельмі адказную пасаду кіраўніка Аддзела засялення і эканомікі Вернутых Зямель, з'яўляючыся адначасова намеснікам галоўнага рэдактара штотыднёвіка «Заходняя Польшча». На працягу доўгіх месяцаў знаходзіўся я ў камандзіроўках, на захадзе або поўначы, часта сярод рэальнай небяспекі, у самым цэнтры пасяленцкіх спраў. Адсюль маё знаёмства рэальнага жыцця, адсюль перш за ўсё веданне чалавека і яго паводзін у тым драматычным часта але і прыгожым перыядзе.

**Як з перспектывы шырокага свету перажыванняў адмалёўваецца ў Вашай памяці вобраз дзяцінства на беларускай правінцыі?**

Адказ на гэтае пытанне патрабуе пэўнага ўдакладнення. Нарадзіўся я і вырас у самой Вільні. Тым не меней сувязі мае з глыбіннай Віленшчынай, таксама з акругамі, дзе пражывае беларускае насельніцтва, былі моцнымі, пакінулі выразны след на крышталіку маёй памяці, а мо і больш — уплылі на мае зацікаўленні, мо нават на пэўныя псіхічныя рысы. З беларускай мовай азнаёміўся я яшчэ шчанюком, праводзячы канікулы ў ваколіцах Будслаўя, Парафіянава, Крывічоў, Доўгінава, Мядзеля, Нарачы, Пінска і г.д. Гэтаксама са звычаямі народнымі, гэтаксама са складам думкі, рэагавання, як і з другога боку — з некаторымі палітычнымі пытаннямі, справамі нацыянальнай палітыкі таго часу і т.п. Усё гэта не магло застацца без уплыву на фармаванне маіх адносін. Наймацней аднак запамятаўся мне той краявід, і нічога дзіўнага, што некаторыя чытачы знаходзяць яго ў маіх аповесцях. Зрэшты, краявід разумею я тут шырэй, не толькі ў літаральным сэнсе, але таксама як пэўную псіхічную аўру насельніцтва. Вырастаў я часткова сярод лясоў ды ўрочышчаў, вёў доўгія гутаркі, часамі таксама па-беларуску, з людзьмі, якія былі мне блізкімі нейкім духоўным сваяцтвам у дачыненні да розных з'яў. Слухаў я аповесці пра «маланку», што арэхі пэліць, слухаў я байкі і легенды, якія па сённяшні дзень застаюцца жывымі, іншы раз уліваюцца ў плынь маіх пісьменніцкіх аповесцей у томе «Opowieści niecodzienne». Памятаю гасціннасць беларускага селяніна, часта беднага, але частуючага шчырым сэрцам хаця і чужога прахожага. Памятаю флегматычны спакой у цяжкіх хвілінах, пэўную меланхолію ў фармаваным вобразе свету. Такія перажыванні дзіцяці ці дарастаючага хлопца застаюцца жывымі незаўсёды.

**Які ўплыў на Вашу творчую асабовасць меў беларускі фальклор?**

Дакладны адказ з'яўляецца нялёгкім. Магло пранікнуць шмат элементаў, аб чым неабавязкова ўсведамляў сабе. Але недзе ў закутках памяці запісана гульня ў глухой вёсцы і ўпершыню пачутая, і ўбачаная ў танцы «Лявоніха», але выныра е цалкам нечакана з цемені бяспамяці пагаворка або прымаўка, нейкая прыспеўка, іншым зноў разам паяўляецца раптам на крышталіку памяці жніўны звычай або паўднёвы адпачынак на пахучых сенажацях над Сервечам ці Ашмянкаю ў час сенакосаў. А ўлюбёнасць некаторых страваў, сёння часта недасягальных практычна? І толькі дарма цячэ слінка... Нейкім чынам напэўна аджывае гэта ў творчасці. Раз у прозвішчы героя, іншым разам у радку аб «чырвоных чаравічках» з «Лявоніхі», у нейкай назве прадмета, ва ўспамінах аб страве, звычаі, спеўцы ці прымаўцы. Цікава было б, калі б хто захацеў прасачыць гэтыя элементы ў маёй творчасці — напэўна сам здзівіўся б

 

# З БАЛТА — СЛАВЯНСКАЙ МІНУЎШЧЫНЫ

Нядаўна вышаў з друку новы (пяты па чарзе) том гадавіка прысвечанага гісторыі балта-славянскіх кантактаў (Acta Baltico-Slavica. Tom 5). Гадавік з'яўляецца органам Беластоцкага навуковага таварыства. Прысвячае ён шмат увагі беларусам, якія з'яўляюцца адгаліненнем славяншчыны, якое мела найбольш кантактаў з балтамі — паўночнымі плямёнамі, з якіх выводзяцца цяперашнія літоўцы і латышы. Аб значэнні беларусазнаўства для вывучэння славяна-балтыйскіх кантактаў сведчыць можа хаця б той факт, што ў апошнім V томе гадавіка на агульную колькасць 10 навуковых артыкулаў — 6 датычаць беларускіх праблем.

Апошні нумар гадавіка адкрывае артыкул лонданскага вучонага Тадэуша Сулімірскага (на англійскай мове) на тэму: Паўднёвыя суседзі балтыйскіх плямён у старажытнасці (Ancient Southern Neighbours of the Baltic Tribes). Аўтар артыкула разглядае асноўныя для ўсходнеславянскай археалогіі праблемы: паходжання беларусаў, паўднёвых межаў балтыйскіх плямён, этнічнага характару плямён засяляўшых усходне-славянскія землі ў старажытнасці. Сулімірскі даходзіць да вываду, што ўся тэрыторыя Беларусі была ў старажытнасці заселена балтамі. Славяне, увайшоўшы на гэтую тэрыторыю ў пазнейшыя часы, перамяшаліся з балтамі, ствараючы такім чынам беларускую народнасць. Як вядома, (аб чым «Ніва» пісала ў свой час), погляд гэты жыва дыскутуецца і сярод савецкіх археолагаў. Мае ён там сваіх прыхільнікаў і праціўнікаў. На пацверджанне гэтага погляду Сулімірскі прыводзіць не толькі археалагічныя доказы, але перш за ўсё доказы этнаграфічнага і лінгвістычнага характару. Вяртаецца ён да дыскутаванай у польскай навуцы праблемы «этнаграфічнай мяжы», якая праходзіла праз тэрыторыю Польшчы і раздзяляла ўсю Еўропу. Па абедзвюх баках гэтай мяжы народ карыстаўся рознымі тыпамі прылад матэрыяльнай культуры. Сулімірскі вяртаецца да погляду выяўленага ў нас антраполагам Чэканоўскім, што абшары размешчаныя на паўночны ўсход ад гэтай мяжы заселеныя былі ў старажытнасці балтамі. Погляд гэты таксама быў моцна дыскутаваны ў польскай навуцы. Супраць такога трактавання прычын узнікнення перасякаўшай Польшчу этнаграфічнай мяжы выказваўся між іншым вядомы польскі этнограф Казімір Машынскі — уласцівы стваральнік тэорыі «этнаграфічнай мяжы».

У далейшай частцы артыкула лонданскі вучоны даходзіць да вываду, што на ўсходнеславянскіх землях у старажытнасці ўвогуле не было славян. Паўднёвымі суседзямі балтаў былі, паводле яго, фракійскія плямёны. Яшчэ далей на поўдзень размяшчаліся плямёны скіфаў.

Другой публікацыяй гадавіка, на якую варта звярнуць увагу нашых чытачоў, з'яўляецца артыкул Ежы Тамашэўскага з Варшавы, спецыяліста ад гаспадарчай гісторыі на тэму: Рабочыя-беларусы ў Польшчы ў 1919—1939 гадах (Robotnicy Białorusini w latach 1919—1939 w Polsce). Вялікую частку артыкула займае спроба вызначэння колькасці беларусаў пражываўшых у межах даваеннай Польшчы.

Лічба беларусаў, паводле Тамашэўскага, была не меншая ад 1.948.000 і не большая ад 2.226.000. Прыняты ім спосаб падліку можа выклікаць засцярогі. Так, напрыклад: са статыстычнай табліцы даведваемся, што ў Сакольскім павеце на агульную лічбу 103.100 жыхараў было толькі 1.600 асоб, у якіх мацярынскай мовай была беларуская мова. Вядома тым часам, што Сакольшчына з'яўляецца раёнам, у якім да вайны яшчэ амаль усе сяляне размаўлялі па-беларуску.

Ва ўласцівай частцы артыкула Тамашэўскі спрабуе ўстанавіць колькасць рабочых-беларусаў у даваеннай Польшчы, даючы ўласціва колькасць рабочых праваслаўнага веравызнання на тэрыторыі Беларусі. Агулам лічба гэтая ў 1931 годзе асягнула 150.300 асоб. Большасць аднак з гэтай лічбы была рабочымі сельскай гаспадаркі. Прамысловы пралетарыят складаў толькі 4,4% працэнта агульнай колькасці рабочых праваслаўнага веравызнання. Не гледзячы на тое, што лічба праваслаўных у Заходняй Беларусі складала каля 40% агулу насельніцтва, лічба рабочых католікаў перавышала лічбу рабочых-праваслаўных больш як 2,5 разоў. Беларусы працавалі прытым як некваліфікаваная рабочая сіла пераважна ў прыватных прадпрыемствах.

У іншых беларусазнаўчых публікацыях гадавіка В. Мялешка з Мінска аналізуе на падставе дакументаў знойдзеных у польскіх архівах сельскагаспадарчыя суадносіны на Усходняй Беларусі ў XVII і XVIII стагоддзях, беларускі археолаг Л. Побаль расказвае аб знаходцы ў Беларусі старажытнага драўлянага рала, а Е. Ахманскі з Варшавы аб літоўскім насельніцтве на Усходняй Беларусі звыш 230 кіламетраў ад этнічнай літоўскай мяжы. Насельніцтва гэтае, на думку аўтара, з'яўляецца астаткам балтаў, якія ў старажытнасці засялялі ўсю Беларусь.

Пры аказіі насоўваецца некалькі агульных заўваг на тэму гадавіка Acta Baltico-Slavica. Перш за ўсё выдавецтва гэтага рэдагаванага ў Беластоку не можна чамусьці купіць ні ў адной беластоцкай кнігарні — трэба за ім ехаць аж у Варшаву. Мноства матэрыялаў друкуецца тут у заходнееўрапейскіх мовах, не падаецца прытым нават іх скарочанага пераказу ў польскай мове, што сведчыць аб тым, што гадавік прызначаны для вельмі вузкага кругу чытачоў-спецыялістаў. Думаю, што такая канцэпцыя выдання няслушная. Зусім добра магло б яно знайсціся ў павятовых і школьных бібліятэках Беласточчыны.

**Ул. Паўлючук**

---

значнай колькасцю іх. Напэўна не ўсведамляю сабе ўсіх іх, занадта спляліся ў мяне са звычаямі польскімі, з прычыны свайго славянскага сваяцтва, як і прыліваў традыцый дзяцінства.

**Як ацэньваеце Вы інспіруючыя вартасці народнай культуры ў стварэнні каштоўнасцей нацыянальнай культуры? Ці маглі б Вы прывесці ўласныя прыклады?**

Мая радаслоўная выводзіцца з плыні літаратуры, што вырастала на падглебе нацыянальных традыцый. Яны ў далейшым вельмі моцна вязаліся з народнай асновай. Лічу, што так, як у палітычным развіцці кожны народ мае сваё канкрэтнае радаслоўе, абазначанае стагоддзямі, гэтаксама культурныя яго дасягненні ў значнай меры залежныя ад жыццёздольнасці ва ўтрымоўванні сувязей з натуральнай, народнай асновай, найбольш чыстай па свайму зместу, найменш скажонай кужымі ўплывамі. Мне паклады народнай культуры неаднаразова з'яўляюцца інспіруючымі дзейнікамі. Жа ж у кніжцы «Pogranicze», аб падзеях на Бабімойшчыне, як жа заслужанай у справе адпору германізацыі, менавіта гэтыя элементы паказваю, указваючы тым самым, што яны з'яўляліся падставай годных паводзінаў насельніцтва рэгіёна. Гэтаксама і ў іншых кніжках як, напрыклад, у «Srebrnej ławicy» зноў вяртаюся да народных традыцый Віленшчыны або Палесся, што выяўляецца ў рознага роду назоўніцтве, у тэкстах прымавак ці пагаворак, у песенчках. Такая вось аснова стварае клімат, аўру, дзякуючы якім твор стаецца жывым, натуральным, не штучным.

**Вашы бліжэйшыя планы?**

Пісьменніку заўсёды найцяжэй гаварыць аб планах, якія часамі маюць дзіўную тэндэнцыю не спаўняцца, бо ж амбіцыі і намеры часта перавышаюць рэальнасць сіл для іх ажыццяўлення. Выдаю новую аповесць для моладзі, звязаную з перажываннямі ў Турцыі. Выходзяць два тамы імпрэсійна - падарожніцкія, грэчаскі і турэцкі. Заканчваю сучасную аповесць, грамадска - звычаёвага характару. Ад некалькіх гадоў збіраю матэрыялы для некалькітомнай, трактаванай эпічна аповесці пра польскі лёс нашага веку. Мой герой будзе паходзіць з Біленшчыны, значыць, з пагранічча нацыянальных стыкаў, што несумненна знойдзе гэта сваё адлюстраванне ў яго паводзінах. Іначай будзе гэта відаць на дзецях, іначай на ўнуках, але нейкія сляды заўсёды застануцца. І несумненна дзякуючы маім дзіцячым сувязям, дзякуючы знаёмству беларускай культуры, не адзін яе элемент менш ці больш свядома знойдзе свой адбітак у гэтай працы.

Інтэрв'ю ўзяў:
**Сакрат Яновіч**

---

## ГАСПАДАРСКІЯ РАЗМОВЫ

# ГАДОЎЦА З ШАСТАКОВА

Людзі абступілі Сяргея Пліса — гаспадара з вёскі Шастакова ў Гайнаўскім павеце. Побач у цеснай загарадзе рохкаў вялікі, белы, пародзісты кныр. Спакойна даваў пагладзіць чыста вымытую шчэць, як бы разумеў, што гэта ён тут знаходзіцца ў цэнтры ўвагі, што менавіта яго прывезлі іншым напаказ.

Сяляне дзелавіта абменьваліся заўвагамі. Сяргей Пліс цярпліва паясняў.

— Шкада, што вы не прывезлі патомства ад яго, — сказаў нейкі дзядзька.

— Не прасілі мяне, — адказаў уласнік кныра. — А парасят развёў ён ужо нямала. І на славу добрыя яны, асабліва да яды.

Сустрэліся мы на выстаўцы сельскагаспадарчых дасягненняў, якая была наладжана ў Новым Беразове з нагоды павятовых дажынак. Рашыў і я ўключыцца ў сялянскую гутарку. Аказалася тады, што Сяргей Пліс разам з сынам Грышкам гаспадарыць на 9-цігектаровай гаспадарцы. Сын кончыў 10 класаў агульнаадукацыйнага ліцэя. Ажаніўся і астаўся на гаспадарцы. Не пайшоў следам большасці сваіх равеснікаў з нейкай адукацыяй шукаць шчасця на гарадскіх пасадах.

— Не шкадуе гэтага? — пытаю бацьку.

— А чаго яму шкадаваць? У ніякім горадзе не знайшоў бы ён лепшага жыцця, як дома. Кім мог бы там быць? Хіба нейкім чыноўнікам з паўтаратысячнай зарплатай. Заплаціў бы за кватэру, выпіў бы нейкую паўлітроўку раз у месяц і зноў чакаў бы на выплату. А тут, дзякуй Богу і нашай дзяржаве, за грашом не азіраецца. За адно толькі малако часам мы да 4 тысяч злотых бярэм у месяц. Да таго ў год здаем на бойню па нейкіх 10 штук свіней. За адну такую свінку конта наша напаўняецца ў сярэднім на 4 тысячы злотых. Апрача гэтага прадаем парасяты, кантрактуем ялоўкі, гадуем куры. Бяды цяпер на вёсцы няма. Адно толькі, што цяжка і безупынна трэба працаваць. Сын мой, нельга наракаць, не гультайнічае, любіць добрую работу.



**На здымку: Гадоўца Сяргей Пліс з Шастакова ў Гайнаўскім павеце.**
**Фота: В. Рудчык.**

Гутарку нашу спыніў нейкі селянін. Цікавіла яго, дзе можна купіць парасяты ад плісавага кныра.

— Прыязджайце хаця б да мяне ў Шастакова, — адказаў гаспадар і зноў звярнуўся да мяне: — Толькі вы не падумайце, што ўвесь даход мы адкладваем у панчоху. Большасць яго вяртаецца назад у гаспадарку. Я штогод трымаю па 15—20 штук свіней, 5—7 кароў і яловак, каля 350-ці штук курэй. Усё гэта патрабуе корму.

— Менавіта, як вы з тым спраўляецеся?

— Выручаюць нас прамысловыя кармавыя мяшанкі. Атрымоўваю іх за кантрактацыю жывёліны. Свайго збожжа не хапае нам нават на хлеб. Вось у гэтым годзе пад жыта ўдалося нам выгаспадараваць ледзь паўгектара поля. Рэшту трэба было прызначыць на кармавыя расліны і на кантрактацыю рапсу. Прыходзіцца парадачна пакруціць галавой, каб добра распланаваць усе пасевы. І тут менавіта дапамагае нам сынава адукацыя. Без падлікаў усё магло б заваліцца.

Спецыялісты па сельскагаспадарчай статыстыцы, беручы за аснову плісаву гаспадарку, падлічылі б, што ў гэтым выпадку на кожныя 100 га зямельных угоддзяў выпадае каля 80 штук рагатай жывёлы і па звыш 300 свіней. Гэта рэкордныя паказальнікі для ўсёй нашай краіны.

Іншы спецыяліст сцвердзіў бы, што Сяргей Пліс гаспадарыць па прынцыпу спецыялізацыі. І сапраўды — ад сваіх маладых год Сяргей Пліс спецыялізуецца ў жывёлагадоўлі. Выбар напэўна слушны. Будучыня сельскай гаспадаркі менавіта ў спецыялізацыі.

(ср)

---

**УВАГА МАЛАДЫЯ МУЖЧЫНЫ!**

# Можна працаваць і здабыць прафесію

У гэтым годзе на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства арганізуецца тры новыя стацыянарныя гуфцы працы для мужчынскай моладзі ва ўзросце 18—24 год. Будуць гэта прадукцыйныя гуфцы, дзе аднačасова праводзіцца навуку ў такіх прафесіях як: муляртынкоўшчык і арматуршчык. Пасля заканчэння навукі юнакі атрымліваюць званне кваліфікаванага рабочага.

### АГУЛЬНЫЯ ЎМОВЫ

Юнакі будуць працаваць на будовах прадпрыемстваў сельскагаспадарчага будаўніцтва. Заработная плата — акорднай сістэмай. Усе юнакі карыстаюць з бясплатнага памяшкання ў рабочых гатэлях і часткова толькі адплатнага ў гуфцовай сталоўцы (18 зл. у дзень), а таксама з усіх сацыяльных дабрадзействаў прыслугоўваючых работнікам прадпрыемства. А вось пасобныя гуфцы:

### ОГП У АЛЕЦКУ

— закватараванне ў сучасным гатэлі для рабочых у 5-асабовых пакоях поўнасцю абсталяваных мэбляю,

— у гэтым гуфцу ёсць святліца са светліцовымі ірамі. Гатэль знаходзіцца над возерам ля стадыёна. Гуфец багата абсталяваны ў розныя спартыўныя прылады.

— Адкрыццё гуфца — 1 кастрычніка г.г. Ваеннае шкаленне ў сістэме ОТК таксама ў кастрычніку.

Адрас гуфца:
Ochotniczy Hufiec Pracy przy P.B.Rol., Olecko, ul. Armii Czerwonej.

### ОГП У ГАЛДАПІ

— закватараванне ў гатэлі для рабочых у пакоях 4—5-асабовых поўнасцю абсталяваных мэбляю,

— харчаванне ў гуфцовай сталоўцы,

— святліца мае розныя светліцовыя ігры, музычныя інструменты, ёсць таксама пры гуфцу спартыўныя пляцоўкі для футбола і валейбола, а таксама розныя гурткі зацікаўлення.

Адкрыццё гуфца 1 кастрычніка. У кастрычніку таксама ваеннае шкаленне ОТК.

Адрас гуфца:
Gołdap, ul. Wojska Polskiego 12.

### ОГП У СЯМЯЦІЧАХ

— закватараванне ў гатэлі для рабочых. Ёсць сталовая і святліца, пакоі 6-асабовыя,

— гуфец мае светліцовыя ігры і спартыўныя прылады,

— у гуфцу прадбачваецца 60 месц ад 1 лістапада г.г.

— Адрас гуфца:
Baciki Średnie k/Siemiatycz.

### ШТО ТРЭБА ЎЗЯЦЬ?

Едучы ў гуфец трэба ўзяць з сабой: 1) паспарт, 2) вайсковую кніжку, 3) апошняе школьнае пасведчанне, 4) пасведчанне з апошняга месца працы, 5) асабістыя рэчы, туалетныя прыборы і музычныя прылады.

Заявы ў гуфец і скіраванні да аддзелаў затруднення Прэзідыум ГРН па бясплатныя білеты на праезд да месца знаходжання гуфца выдаюць: Павятовыя праўленні ЗМС, ЗМВ і Ваяводская камісія ОГП, ЗМС і ЗМВ у Беластоку.

(ак)



 

## Чвэрць стагоддзя назад

# У ГРУПЕ „ДАЛЬНІЯ"

На другі дзень а дзесятай раніцы прыгарадны электрычны цягнік вёз мяне з Масквы ў Падольск.

Якімі будуць новыя сябры, як яны выглядаюць, як мяне сустрэнуць? Куды лепш было б мне з маімі сябрамі Панфілюком, Ільяшуком... Мог бы быць Стах Вуйт... Хоць гэтага замала ведаю. З імі было б лягчэй дзейнічаць. Трудна, нічога не зробіш, раздзялілі нас. Начальства ведае лепш, што рабіць. Мая справа выконваць загады. Сам жа накідваўся. А мо лепш зрабіў бы, каб сядзеў ціха ў Маскве. Ужо хіба хутка канец вайны. Не, не таму, што баюся, каб не загінуць. Проста хочацца ўласнымі вачыма ўбачыць, як усё гэта скончыцца. Ці зловяць гэтага страшыдла Гітлера? Каб так удалося яго злавіць жывым, абліць смалою, выкачаць у пер'і, усадзіць у клетку і вазіць з краіны ў краіну, па ўсім свеце, паказваць ва ўсіх цырках. Хай бы ўсе маці, якія страцілі сваіх дзяцей, і дзеці, якія страцілі бацькоў, маглі плюнуць яму ў твар.

Мільгануў прыпынак Шчэрбінка, за ім рака Пахра. Цягнік пачаў спыняцца. Падольск. Прыехаў.

Падольск — невялікі падмаскоўскі горад, дык лёгка знайшоў я будынак ясляў. Ля ўваходу стаяў вартаўнік. Выклікаў ён па тэлефоне афіцэра, а той завёў мяне да палкоўніка Васільева.

— Грамадзянін палкоўнік, радавы Анацік прыбыў у ваша распараджэнне, — службова прадставіўся я.

— Добра, добра, вітаю! Чакаем цябе. Зараз будзе тут твой камандзір капітан Хмялеўцаў, а пакуль сядай.

Сеў я на лаўцы пад сцяною. Палкоўнік Васільеў быў пажылым мужчынам год каля пяцідзесяці. Шчуплы, высокі, крыху пахілены, з сівеючымі валасамі. Выглядаў на чалавека спакойнага з добрым характарам. Такім і быў сапраўды. Разгледзеўся я па зале. Афіцэры працавалі ў тыпова палявых умовах, за прымітыўнымі, наспех збітымі з негабляваных дошак доўгімі сталамі, якія стаялі на казлах. Крэслы замянялі доўгія лаўкі. На падаконніку стаяла электрычная плітка, на якой бульгатаў чайнік. Каля пліткі бляшаныя кубкі, бляшанкі кансерваў, хлеб...

Тут ужо пахне вайною. Няма мяккіх, скураных крэслаў, пушыстых дываноў.

Скрыпнулі дзверы. Увайшоў вайсковец у чыне капітана. Сярэдняга росту, прысадзісты і рухавы мужчына год не больш сарака.

— Добры дзень! — прывітаў усіх, прылажыўшы далонь да казырка.

— Добры дзень, Мікалай Аляксеевіч, — сказаў палкоўнік Васільеў. — З'явіўся, дык прымай свайго памочніка.

— Так? — сказаў капітан. Падбег да мяне, працягнуў руку. На яго круглым ружовым твары расплылася сардэчная руская ўсмешка. — Добры дзень, нарэшце! Ужо тыдзень чакаем з нецярплівасцю. Капітан Мікалай Аляксеевіч Хмялеўцаў, — прадставіўся, хлопаючы мяне па плячах. — Твой будучы камандзір.

Ніхто з афіцэраў, якія працавалі за сталамі, не звяртаў увагі на нашае прывітанне. Зашыліся ў паперы, ставілі нейкія знакі на картах, пісалі, чарцілі. Усё гэта рабілі ў абсалютнай цішыні.

— Ну, пойдзем на кватэру, — сказаў Хмялеўцаў. — Адсюль недалёка. Таварыш Васільеў, прашу абавязкова зайсці да нас сёння вечарам. Трэба замачыць новага таварыша, каб хутчэй акліматызаваўся.

— Правільна, трэба захоўваць нашыя рускія традыцыі. Хвалю за ініцыятыву. Мо, нешта падкінуць?

— Дзякую! Пакуль усё маем. Плюс запас.

— Добра, прыду каля восьмай.

Вечарам на прыватнай кватэры сустрэліся ўсе члены нашай групы: капітан Мікалай Аляксеевіч Хмялеўцаў — камандзір групы; старшы лейтэнант Аляксандр Чаўрыкаў — намеснік камандзіра; старшы лейтэнант Мікалай Васільевіч Нячаеў; лейтэнант Дзмітры Аляксеевіч Новікаў; радыётэлеграфіст Уладзімір Шытаў і я. Быў таксама і палкоўнік Васільеў.

Прыняццё мяне ў калектыў было саліднае, закончылася «гімнам» «Шумеў камыш...»

Дваццаць другога верасня 1943 года наша група, якая мела крыптанім «Дальнія», выехала з Падольска на аэрадром Унукава пад Масквою. Верасень у ваколіцах Масквы гэта ўжо поўная восень. Лясы апрануліся ў залацістую вопратку, дуў халодны вецер, імжыў дождж. Пагода, гаворачы прафесіянальнай мовай лётчыкаў, не была лётнай. Закватэраваныя побач аэрадрома ў калгаснай вёсцы, чакалі мы на пагоду.

Дваццаць восьмага верасня пасля абеда неба пачало праясняцца, паказаліся першыя ад дзесяці дзён сонечныя прамені.

— Паглядзіце, якая цудоўная пагода, ніводнай хмаркі на небе! — крычаў Чаўрыкаў. — Мікалай Аляксеевіч, пазвані на аэрадром да тэтых расцяпаў, хай урэшце дадуць свой прысуд.

— Не чаруй, Саша, дзе ж твая цудоўная пагода?— адказаў Хмялеўцаў. — Паказаліся першыя сонечныя прамені, а ў цябе ўжо — ніводнай хмаркі.

Перад кватэрай спыніўся грузавік. З кабіны выйшаў палкоўнік Васільеў. Пабеглі мы насустрач.

— Ну, што, ляцім? — пасыпаліся пытанні.

— Ляціце.

— Урра!!!

**Ян Анацік**

## НАВІНКІ ТЭХНІКІ

### Радыёперадача са страўніка

Урач прапануе пацыенту прыняць некалькі незвычайную «таблетку» велічынёй з карамельку «барбарыс». Яе «начынка» змешчана ў надзейны корпус з пластыка. Праходзіць некалькі секунд, і спецыяльная прыёмна-рэгіструючая апаратура пачынае фіксаваць сігналы мікрамініяцюрнай радыёстанцыі, якая знаходзіцца ў гэтай «таблетцы» і вядзе перадачу са страўніка. Серыйны выпуск арыгінальнай навінкі пачат у Ленінградзе.

Рухаючыся па кішэчна-страўнікаваму тракту, капсула «збірае» патрэбную ўрачу інфармацыю. У залежнасці ад «спецыялізацыі» капсулы яе датчыкі паведамляюць толькі тыя даныя, якія цікавяць урача. Батарэйка, якой забяспечана гэта радыёстанцыя, можа сілкаваць яе энергіяй на працягу трох сутак.

Даныя, атрыманыя ад радыёстанцыі, дапамагаюць урачам больш дакладна ставіць дыягназ, весці даследванне без выкарыстання зондаў. Выпрабаванні навінкі, праведзеныя ў клініках, далі добрыя вынікі.

## БЕЛАРУСКАЯ ССР У ФОТААБ'ЕКТЫВЕ



Сотні дзяцей з Беларусі штогод адпачываюць на Паўднёвым беразе Крыма ў піянерскіх лагерах «Артэк». Гэтыя рабяты адпачывалі ў артэкаўскім піянерскім лагеры «Лазурный».

## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

### Чаму птушкі жывуць у горадзе

Вучоных заўсёды цікавіла загадка, чаму некаторыя птушкі, напрыклад, вераб'і, жывуць вялікімі чародамі ў самых мнагалюдных гарадскіх пунктах. Мноства вераб'ёў можна ўбачыць, напрыклад, у самым цэнтры Варшавы, на дрэвах каля Цэнтральнага ўніверсама. Чаму яны не пасяляюцца ў месцах больш спакойных? Супрацоўнікі Інстытута экалогіі ПАН прыйшлі да вываду, што птушкі прыстройваюцца да асяроддзя, штучна створанага чалавекам. Магчыма, што гарадскія будынкі нагадваюць ім крутыя вапнавыя скалы, дзе заўсёды шмат птушак. Магчыма, гэтым трэба вытлумачыць той факт, што ў гарадах сустракаюцца птушкі, якія яшчэ не так даўно насялялі горныя раёны.




**ВАРЫЦЕ АШЧАДНА**

Вараную бульбу, што асталася з учарашняга дня, абярыце, нарэжце на дробныя кавалачкі, раскладзіце на талерцы і ўпрыгожце зяленівам і маянэзам.

*

Калі з учарашняга дня асталася курыца або кураня, ачысціце яе ад касцей і дробна нарэжце. Дадайце размочаную ў малацэ мякаць булкі. Зрабіце катлеткі, абкачайце ў муцэ і смажце. Яек дадаваць не трэба.

*

Варыце менш, каб есці з апетытам. Калі нагатавана шмат яды, вам трэба будзе падаграваць яе і прапаноўваць другі раз. Рэшткі перакладваюцца ў талеркі, міскі і нарэшце выкідваюцца: страва або прыелася або сапсавалася...

*

Ежа не павінна быць тлустай. Гэта шкодна для страўніка — і наогул неашчаднасць. Толькі ўмерана тлустая страва карысная.

# ЗЛАЧЫННЫ ГЕШЭФТ

**(АДНА З САМЫХ БУЙНЫХ АФЁР XX СТАГОДДЗЯ)**

Калі б не быў вынайдзен «канцерган», тысячы дзяцей не нарадзіліся б на свет калекамі. Толькі ўладальнікі заходнегерманскай фірмы «Груненталь» і пасля страшэннай трагедыі па-ранейшаму лічаць яго «цудадзейным сродкам». Яшчэ б, на працягу трох гадоў гэты прэпарат прынёс ім 24 мільёны 197 тысяч марак прыбытку — прыбытку цаной пакут і смерцяў.

...Першая трагічная вестка прыйшла з Бельгіі. Муж і жонка Жан і Сузана Вандэлю з нецярпеннем чакалі першынца. Але разам з яго з'яўленнем гора прыйшло ў іх сям'ю. Дзіця з'явілася на свет калекам: замест рук у яго тырчалі абрубкі плаўнікаў. Галоўны ўрач клінікі з жахам расказваў аб гэтым бацьку. Праз пяць дзён сваё дзіця ўбачыла маці, якая да гэтага была ў непрытомным стане, убачыла — і жахнулася.

Яна плакала цэлымі днямі і даймала ўрачоў адзіным пытаннем:

— Што будзе з маім дзіцём?

Даведзеная да адчаю сям'я Вандэлю атруціла свайго першынца. У справу быў замешан сямейны ўрач Жак Кастар, бо ён выпісваў рэцэпт на яд.

Суд пагражаў злачынцам суровым прыгаворам. Тады па ўсёй Бельгіі тысячы людзей ставілі свае подпісы пад петыцыяй у абарону абвінавачваемых. І дванаццаць прысяжных засядацеляў вынеслі рашэнне, якое было канчатковым:

— Не вінаваты.

Бадай, гэта быў адзін з тых рэдкіх выпадкаў, калі суд апраўдаў бацькоў, якія знішчылі сваё дзіця. Гэта адбылося таму, што людзі былі ўпэўнены — сапраўдныя віноўнікі забойства не сям'я Вандэлю, а ўладальнікі заходнегерманскай фірмы «Груненталь», якая гандлюе «цудадзейным» прэпаратам, які вядомы ў Бельгіі пад назвай «софценон». Злачынцы даўно павінны былі трапіць на лаву падсудных, але кожны раз выходзілі сухімі з вады.

Больш дзвюх тысяч дзяцей, якія сталі ахвярамі «канцергана», пражылі не больш двух гадоў. Сёння толькі ў ФРГ зарэгістравана 2.625 дзяцей-калек. Дакладнай колькасці ніхто не ведае. Прыблізна тысячы дзяцей — будучых грамадзян бонскай «цуда-дзяржавы» вымушаны будуць усё жыццё насіць пратэзы або ездзіць на калёсах. Усе яны сталі ахвярай адной з самых буйных афёр XX стагоддзя.

Прыблізна 400 дзяцей, знявечаных «канцерганам» пераступілі ў мінулым годзе парог заходнегерманскіх школ. Больш тысячы пачынаюць заняткі ў гэтым годзе. Але яны пазбаўлены ўсіх радасцей дзяцінства.

Скандал з «канцерганам» мае доўгую гісторыю.

Яшчэ ў канцы 50-х гадоў уладальнікам малавядомай заходнегерманскай фірмы «Груненталь» прыйшла ў галаву думка стварыць цудадзейны снатворны сродак. Лабараторная назва новага прэпарату была «К-17». Доследы рабіліся на мышах, пацуках і марскіх свінках. Прадстаўнікі фірмы афіцыяльна сцвярджалі, што ні адна з паддоследных жывёлін не памерла і ўнікальны прэпарат бясшкодны.

А, між іншым, як высветлілася пазней, усё гэта было толькі падманам.

1 верасня 1957 года ў Заходняй Германіі пачынаецца продаж «цудадзейнага прэпарату». Яго можна набыць у любой аптэцы, нават без рэцэпта. Трагедыя яшчэ прадстаіць.

Гешэфт працвітае і за межамі Заходняй Германіі. Пад 49 рознымі назвамі «канцерган» збываецца ў 47 краінах, у самых аддаленых кутках свету, уключаючы Аўстралію, Японію, Паўднёвую Афрыку і Чылі. Людзі яшчэ не падазравалі, што сталі толькі паддоследнымі трусікамі.

15 лістапада 1961 года ў кабінеце галоўнага ўрача фірмы «Груненталь» доктара Мюктэра раздаўся тэлефонны званок. Доктар Ленц паведамляе з Мюнсцера, што яго доследы з «канцерганам» пацвердзілі меркаванне, што гэты прэпарат тоіць у сабе вялікую небяспеку для здароўя і жыцця людзей. Раззлаваны доктар Мюктэр, не даслухаўшы да канца, кідае трубку.

Але праз два дні на яго стале паяўляюцца прысланыя з Мюнсцера вынікі даследвання. З 1957 года, сцвярджае прафесар Ленц, у Заходняй Германіі ўсё часцей нараджаюцца дзеці-калекі. Гэта нованароджаныя, у якіх замест рук куксы. Прычына — ужыванне «канцергана», які якраз у гэты час у вялікай колькасці быў выкінут на рынкі Заходняй Германіі і ўсяго капіталістычнага свету. Гэтую думку падзяляюць і іншыя вядомыя вучоныя ФРГ.

Але доктар Мюктэр — адзін са стваральнікаў «канцергана» і натхніцель афёры — кладзе гэты дакумент пад сукно, робіць выгляд, што нічога не здарылася, і працягвае па-ранейшаму сцвярджаць, што «канцерган» лепшае снатворнае ў свеце.

Праўда, у вузкім коле сяброў ён неяк прызнаўся:

— Калі б я быў урачом, — заявіў ён, — я ніколі больш не раіў бы сваім пацыентам «канцерган».

Але ці быў доктар Мюктэр, які ўжо даўно носіць белы халат, калі-небудзь урачом? Гэты 54-гадовы дзялок з бычынай шыяй у мінулым кат. У гады другой сусветнай вайны Мюктэр узначальваў «навукова-даследчы інстытут». У акупіраваным Кракаве ён праводзіў доследы над людзьмі: прывіваў ім вірусы сыпнога тыфу і іншых заразных захворванняў.

Ён быў адным з тых, хто падрых-

# ТРЫБУНА чытачоў

## ГЭТА ВАРТА ПРАЧЫТАЦЬ

Не з'яўляюся літаратурным крытыкам, а тое, што хачу сказаць, вынікае з пачуццяў, якія нараджаюцца ў простага чытача. Чытаў я апошнім часам зборнік беларускага паэта Ніла Гілевіча — «Перазовы».

Зборнік Гілевіча чытаў адным духам. Хапіла прачытаць адзін верш, незалежна на якой старонцы, а ўжо ўзнікала цяга да наступнага, наступнага і так аж пакуль не трэба было закрыць апошнюю старонку.

Творы, змешчаныя ў зборніку, можна б было падзяліць на тры групы. Да першай будуць адносіцца вершы, у якіх аўтар апявае прыгажосць роднай мовы, прыгажосць беларускага краю.

Ніл Гілевіч умее знайсці прыгожае ў кожным кутку беларускага краю.

У другой частцы зборніка паэт падказвае нам, што любоў да свайго роднага краю стаецца больш аддана́й, калі мы ведаем яго мінулае, тое, што было даўно, і тое. што праходзіла яшчэ не так даўно. Заклікае не забываць таго, што тварылася ў час апошняй вайны.

Гілевіч не абмяжоўваецца да апявання сваёй айчыны, ён умее з душой аднесціся і да людзей, якія жывуць бліжэй і далей ад яго роднай краіны. Яго любоў да бацькаўшчыны не занімае, а наадварот, дазваляе з пашанай і глыбокай душэўнасцю аднесціся да ўсіх народаў свету, якія, як і яго народ, працай твораць лепшую будучыню нашчадкам і стараюцца не дапусціць, каб праца іх кім-небудзь знішчалася.

Зборнік гэты смела можна назваць школай патрыятызму і інтэрнацыяналізму.

Думаю, што вельмі заслужана камісія па дзяржаўных прэміях вылучыла Ніла Гілевіча на кандыдата гэтых жа прэмій.

**Францішак Берніковіч**
Сядліска к/Гіжыцка




## У ПЛЁСКАХ

Вялікім святам у Плёсках быў дзень адкрыцця «Клуба гаспадара». Усё спачатку ішло, як кажуць, «па масле». Клуб быў адкрыты ў вызначаныя гадзіны, іграў тэлевізар, радыё і адаптар — было ўсё добра. Апошнім часам справы змяніліся. Клуб вельмі часта замкнуты на тры замкі, тэлевізар сапсуты, адаптар знік з клуба. Моладзь і старэйшыя вельмі незадаволены і неспакойны. Просім «клубовага» прывесці ўсё ў парадак.

*

Плёскаўская моладзь вядомая з таго, што ўмее прыемна і весела правесці час. Амаль у кожнае свята арганізуе забавы, на якія прыязджае моладзь і з іншых вёсак, нават адлеглых. Непакоіць толькі тое, што прыезджыя паводзяць сябе вельмі некультурна. Возьмем такі факт. Хлопцы з вёскі Гацькі вечарам пасля забавы напалі на дзяўчыну. Толькі дзякуючы гаспадару, які пачуў крык, дзяўчына вырвалася ад нахабнікаў. Гэтая справа хвалюе. Цікава, што думаюць злачынцы, якія так бяссорамна сябе паводзяць, карыстаючы з гасціннасці плёскаўскай моладзі.

**Ваня**

## ДЗЯКУЕМ ЗА ПОМАЧ

ЛьЗС у Орлі існуе ўжо многа год. Гурток гэты можа пахваліцца добрымі спартыўнымі вынікамі. Удзельнічаў ён у многіх спаборніцтвах і спартакіядах, дзе займаў добрыя месцы. Члены гуртка вельмі дзякуюць Сцяпану Сыльвеструку — павятоваму кіраўніку ЛьЗС у Бельску за вялікую помач і адданасць для развіцця спорту ў Орлі.

**В. Кірыдзюк**




■ Тадэуш Бергель з Разадранкі Старой пабіў работніка чыгункі, кандуктара Казіміра Баганскага. Хулігана арыштавана.

■ Сакольская міліцыя таксама за хуліганства арыштавала Язэпа Трахіма, якому 27 год, і Мечыслава Бабарыка, якому 22 гады. Пабілі яны Яна Гароша. Абодва хуліганы жывуць у Саколцы і нідзе не працуюць.

■ Бельская міліцыя арыштавала Андрэя Саўчынскага са Снежак. Падазраваюць яго ў тым, што пабіў ён аграмеліяранта Буйнюка.

■ На лясной дарозе пад Сахарэвам у Гайнаўскім павеце сутыкнуліся матацыклісты: Віктар Леўчук (17 год) з вёскі Тапіла і нейкі іншы, якога прозвішча не ўстаноўлена. З гэтага здарэння В. Леўчук вышаў цяжка паранены, а другі матацыкліст уцёк. Яго шукае міліцыя.

■ У вёсцы Даманова, Бельскі павет, вечарам 26 жніўня ад перуна згарэў хлеў разам з жывёлінай. Затраты — 30 тысяч зл.

**Асака**



Нараўка. Жыллёвыя дамы.

## НАРАЎКА БУДУЕЦЦА

У планах развіцця грамады Нараўка прадбачваецца пабудова вялікага тэхнічнага заплечча ў Міклашэве, заданнем якога будзе праводзіць рамонты машын усіх сельскагаспадарчых гурткоў у грамадзе. Да 1970 г. будзе пасаджана на тэрыторыі грамады 220 га лесу. Пабудуюцца лепшыя дарогі. Дагэтуль пабудавана дарога з Нараўкі ў Лясную праз Міклашэва, дарога з Альхоўкі ў Забровы — 2 км. Апошнім часам будзе праводзіцца праца пры пабудове невялікіх адрэзкаў дарогі з Нараўкі ў Белавежу.

У многіх вёсках пабудавана супрацьпажарныя басейны і ва ўсіх вёсках ёсць громаадводы.

У самой асадзе Нараўка ў мінулым годзе выменена пліты пры вуліцах 22 Ліпеня і Міцкевіча.

У гэтым годзе плануецца закончыць пабудову новага будынка, дзе будзе банк СОП-у. Гаспадарчы будынак ля яго ўжо пабудаваны. Нядаўна закончана пабудову такой важнай інвестыцыі для Нараўкі, як глыбінны калодзеж. Ёсць ужо падрыхтавана дакументацыя на будову гідрафорні, а затым і сеткі водаправодаў да паасобных памяшканняў.

Прэзідыум ГРН рамантуе памяшкальныя будынкі. Дагэтуль адрамантавала іх восем. Найбольш пры вул. Міцкевіча, між іншым, адзін са школьных будынкаў. Апошнім часам пабудаваны будзе гаспадарчы будынак пры школе за 80 тыс. зл. 40 тыс. зл школа атрымала з Гайнаўскага інспектарату асветы, а 40 тыс. зл знайшлося на месцы: частку свайго фонду прызначыў бацькоўскі камітэт, а 12 тысяч зл — з грамадскіх чынаў. Выпрацавана іх пры звозцы такіх будаўнічых матэрыялаў, як жвіру, камення, пры прадукцыі пустакаў ці выкананні нефаховых прац самымі бацькамі.

Агароджана сеткай школы ў Нараўцы і Міклашэве. Ёсць таксама сетка на агароджу школы ў Альхоўцы. Плануецца пабудаваць у Нараўцы новую гасподу, пякарню, разлеўню ахаладжаючых напіткаў.

Варта дадаць, што пры пабудове многіх будаўляных інвестыцый бралі ўдзел грамадскім чынам жыхары Нараўкі і ваколіцы.

**Янка Цялушэцкі**
фота аўтара

## НАШ РАТАЎНІК

Вёска Плёскі распаложана над Нарвай. У наваколлі гэтай вёскі месціцца цэнтр адпачынку працаўнікоў ПКС-у з Беластока. У цёплыя дні, пераважна святочныя, прыязджае сюды многа людзей. Сярод іх старыя і маладыя. Тыя, што ўмеюць плываць і не ўмеюць. Некалькі чалавек утапілася. У сувязі з тым дырэкцыя ПКС-у падумала аб ратаўніку.

Ратаўніком назначаны селянін з вёскі Плёскі Васіль Прахарук. Ён быў на плывацкім курсе ў Гайнаўцы. Яго часта можна тут убачыць з ратаўнічым колам. Усе яго любяць, бо ён ратуе людское жыццё. Варта сказаць, што гэты чалавек праводзіць тут навуку плавання. Многа людзей у яго здае экзамен на плывацкую карту.

**Л. Леанюк**
Плёскі

## У МАСЕВА



Такі натоўп перад аўтобусамі ў Гайнаўцы — штодзённая з'ява. Як інакш даедзеш у Масева, калі цягнік туды не даходзіць...
Фота: Янка Цялушэцкі

тоўваў задуманую Гітлерам аперацыю па поўнаму знішчэнню славян і стварэнню «свабоднай жыццёвай прасторы для арыйскай расы».

Сёння ён, быццам нічога не было, працягвае займацца «даследчай» дзейнасцю. Паводле кантракта, фірма «Груненталь» гарантавала яму толькі 1.200 марак у месяц. Астатнія даходы залежалі ад абароту фірмы, якія дасягае фантастычнай сумы. І Мюклер не меў намеру адмаўляцца ад грошай дзеля захавання здароўя і жыцця іншых.

Толькі пасля таго, калі скандал з «канцерганам» нельга ўжо было заглушыць, расследваннем гэтай справы вымушана заняцца міністэрства ўнутраных спраў Зямлі Паўночны Рэйн—Вестфалія. Размова прадстаўнікоў улад з уладальнікамі фірмы «Груненталь» праходзіла пры зачыненых дзвярах. Аднак адно было зразумела: на патрабаванне неадкладна зняць з продажу «канцерган» дзялкі адказалі катэгарычнай адмовай. Яны адчувалі сябе поўнымі гаспадарамі становішча.

Нямалаважную ролю ў тым, што брудная афёра працягвалася, адыграў уладальнік фірмы Герман Вірц. Шэсць месяцаў у яго сталe праляжалі матэрыялы афіцыяльных расследванняў, якія пацвярджалі небяспеку, выказаную яшчэ доктарам Ленцам. Але, згодна з заходнегерманскім заканадаўствам, для таго, каб спыніць злачынны гешэфт, патрабаваў подпіс самога шэфа. А шэф адсутнічаў. З ім немагчыма было звязацца нават па тэлефоне. Ён раптам стаў страсным аматарам паляванняў.

«Канцерган» быў зняты са спажывання толькі ў канцы лістапада 1961 года, пасля таго, як ён прынёс уладальнікам фірмы фантастычныя прыбыткі.

Шэсць з палавінай гадоў спатрэбілася заходнегерманскаму правасуддзю для таго, каб, паводле яго сцвярджэння, «расследваць» адну з самых буйных афёр XX стагоддзя. Расследванні праводзіліся на ўсіх кантынентах. Абвінаваўчы акт быў аддрукаван на 972 старонках, якія паспелі пакрыцца пылам. Колькі праяўлена стараннасці і педантычнасці.

Але ж сам судовы працэс не што іншае, як працяг афёры. Заходнегерманскія ўлады вырашылі правесці яго ў Альсдорфе — глухім гарадку, далёка ад людскіх вачэй. Аднак гэта не перашкодзіла тромстам, назіральнікам і журналістам з многіх краін свету прыехаць сюды і стаць сведкамі насмешкі над правасуддзем. Сведкі асаджваюць залу суда, куды яны прыбылі разам са сваімі дзецьмі — ахвярамі афёры.

Але на лаўцы падсудных толькі сем прадстаўнікоў фірмы «Груненталь», якія прадбачліва застрахавалі сваю маёмасць і цяпер спакойна паўтараюць адно і тое ж:

— Не вінаваты. Мы ж не падазравалі, што ўсё гэта абернецца падобным чынам.

Сем абвінавачваемых абараняюць 18 адвакатаў, паслугі якіх шчодра аплачвае фірма «Груненталь». Несумненна, яна аплаціла і адсутнасць на судовым працэсе галоўнага злачынца — яе ўладальніка Германа Вірца. Ён не з'явіўся ў суд, спаслаўшыся на моцны насмарк.

Гэты насмарк працягваецца больш трох месяцаў, роўна столькі, колькі і скандальны працэс у Альсдорфе. А.С.

# КІНО

**Беласток**

**БГКТ**
«Вуліца малодшага сына» — 6Х..

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**
,,Ach ci miedzi'' (węgierski), 1—2. ,,Niepokoje wychowanków Tolesa'' (NRD), 3—4. ,,Faraon'' (polski), 5—6.

**Дубіны**
,,BS. 38-15'' (NRD), ,,Julia, Anna, Genowefa'' (polski), 2—6.

**Нараўка**
,,Mętna woda'' (węgierski), ,,Piąty jeździec Apokalipsy'' (czeski), 2—6.

**Нарва**
,,Bariera'' (polski), ,,W martwej pętli'' (radz.), 2—6.

**Чыжы**
,,Na pomoc'' (angl.), ,,Katastrofa'' (polski), 2—6.

**Дубічы Царкоўныя**
,,Bumerang'' (polski), ,,Galia'' (franc.), 2—6.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
,,Dywersanci'' (jugosł.), ,,Pociąg pod specjalnym nadzorem'' (czeski), 2—6.

**Орля**
,,Gdy miłość przemija'' (jugosł.), ,,Stajnia na Salwatorze'' (polski), 2—6.

**Райск**
,,Męski piknik'' (jugosł.), ,,Sami swoi'' (polski), 2—6.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
,,Ojciec żołnierza'' (radz.), ,,Tabliczka marzenia'' (polski), 1—4.

**Міхалова**
,,Zarezerwowane dla śmierci'' (NRD), 1—2. ,,Klub kawalerów'' (polski), 3—4. ,,Miłosne kłopoty'' (radz.), 5—6.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
,,Jedyna szansa'' (1—2. ,,Prywatna burza'' (czeski), 3—4. ,,Rozwód z miłości'' (węgierski), 5—6.

**Шудзялава**
,,Jej siedem wieczorów'' (czeski), ,,Mój przyjaciel delfin'' (USA), 3—6.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**
,,Otello z prowincji'' (węgierski), ,,Panowie z kompleksami'' (włoski) 2—6.

**Новы Двор**
,,Nikt nie chciał umierać'' (radz.), ,,Przed wojną'' (jugosł.), 5—6.

**Ліпск**
,,10 małych Indian'' (angl.), ,,Ja twój syn'' (węgierski). 5—6.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK ,,Ruch'' Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych ,,Ruch'' Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ ,,Ars Polona'' Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. G-3 NAKŁAD 5714



# АБАРОТНАЯ

Гавораць: чалавек чалавеку не можа дараўнаць. Гэта праўда. Вядома, адзін абаротны, а другі хоць ты яго друкамі варочай. Нядаўна ездзіла я ў Крынкі заказваць сабе скураную тужурку. Пры аказіі прабеглася па крамі-ках, бо нявестка прыказала квасу цытрыновага купіць. Толькі купіла квасу і выйшла на тратуар, аж бачу, стаіць група кабет. Штось талкуюць. Мяне зацікавіла, ці часам гэтыя кабеткі не гавораць аб стагоддзі крынскае царквы, якое хутка мае там адбывацца. А мо, думаю, аб іконах, што ўкралі ў Пяцяніцы і ў Кузніцы. Падыходжу да іх і кажу: — Перабачайце, калежанач-кі, аб чым так размаўляеце?

Яны, знаеце, вельмі ахвотна мяне прынялі ў свой кружок, і як толькі я сказала, што гэта я Міхалінка, то зараз мне ўсе новасці расказалі. Адна нават мяне ў руку пацалавала і кажа: — Міхалінка, знаеш, маю я дачку ў Беластоку. Нядаўна наведала яе калежанка. Прышла і просіць пазычыць 30 зл. Мая дачка з прыемнасцю пазычыла, ну бо як не пазычыш знакомай і такой абаротнай.

Як пачалі далей расказваць, то ўсе за жываты трымаліся, а Настусі ад смеху спадніца ўпала. Кажуць, што ёсць такая абаротная маладзіца, што дзе бы не павярнула, зараз пазычыць пару сотняў. Бяда толькі, што не хоча аддаваць. Мяне цікавіла, хто гэта такі, а яны кажуць: — Аня Анісімовіч, якая цяпер па мужыку Каліноўская завецца, яна такая спрытная. Працуе цяпер у Беластоку. Некалькі год таму працавала ў Беластоцкім пэзэдгэзсі, то нават у персанальнага пазычыла грошы. Прыбегла да яго задыхаўшыся і кажа: пазыч грошай, бо прывязлі ў краму добрыя рэчы, а я з сабою грошай не маю. Заўтра рана прынясу. Ад той пары ўжо шосты год мінае, а яна як толькі спаткае яго, то перш за ўсё гаворыць: «Добра, што спаткала, бо я забыла твой адрас і не магу грошай табе аддаць. Цяпер вось якраз з сабою не маю.

Так яна ашукала ўжо многіх. Дзе толькі працавала, там і ашуквала. Мае яна на сваёй душы многа грахоў. Вось абаротная жанчына.

**Суседка Міхаліна**

### ДБАЙНЫ ЗЛОДЗЕЙ

Быў у адной вёсцы адзін такі зладзеяваты чалавек. Не мог, каб чаго-небудзь не сцягнуць. Убачыць дзе-якую дошку ці што іншае, бярэ яе пад паху і прыгаворвае:
— Трэба забраць, а то яшчэ хто ўкрадзе.

### ВЫПРАБАВАННЕ СМЕЛАСЦІ

— Вы смелы ці не?

— Вядома, смелы!

— Калі так, то схадзіце да маёй жонкі, вазьміце ў яе ключ і скажыце, што я сёння крыху запазнюся.

### ДВОЕ

Двое сядзяць на лавачцы.

— Калі б я стаў птушкай... — уздыхнуў ён.

— Ты праспяваў бы мне?

— спытала яна.

— Не, у мяне б не балелі зубы.

### КАЛІ

— Калі канчаецца мядовы месяц?

— Калі муж перастае намагаць жонцы мыць посуд і робіць гэта сам.

### ЛЕПШЫЯ

— Калі я была ў тваім веку, дык мая маці не дазваляла мне вяртацца дамоў так позна, як ты, — папракае маці дачку.

— Дзіўная ў цябе была маці!

— Маўчы! У мяне была лепшая маці, чым у цябе!

### ГАЛОЎНАЕ — АЎТАРЫТЭТ

Вельмі ўжо брахаў адзін дваровы сабака. Брахаў і днём і ноччу. Без перадышкі. З прычыны і без прычыны. Суседзі, ды і гаспадары сталі неўрастэнікамі. Крычаць на сабаку, пагражаюць, а ён брэша і брэша.

Рабіць няма чаго, давялося выклікаць ветэрынара. І аказалася вось што: сабака даўным - даўно аглух, аслеп і страціў нюх.

А брахаў дзеля аўтарытэту.

**Р. Раліп**

### ЦЕСНАЯ ХАТА

Валасны пісар выдае пасведчанне і пытаецца:
— Колькі маеце дзяцей?
— Толькі васьмёра...
— А чаму не маеце болей — жартуе пісар.
— Бо ў нас хата вельмі цесная.

### ПЕРАМОГА

У радасці зароў
Аднойчы цар звяроў:
— Я перамог! Ура!
Зваліў ён... камара.

**Ул. Захарэвіч**



### З ДОБРАГА РОДУ

Дзеці забаўляюцца на вуліцы. Да іх далучаецца яшчэ адзін хлапчук, але яны не хочуць яго прыняць да кампаніі і голасна крычаць.

— Ідзі ад нас! Ты нават бацькі не меў і не маеш!

Пачула гэта маці таго хлапчука і як закрычыць:

— Ах вы, галавачы праклятыя! Можа ён меў болей бацькоў, як вы ўсе разам!

### БАГАЦЕЙ

Прыехаў у чужое сяло ў сваты хлопец. А ў яго і пытаюць:

— Скажы, чалавеча, як жывеш ты, што ў гаспадарцы маеш?

— Нішто сабе жыву. Маю харомы, лаўку, млын, бровар... — пачаў хваліцца жаніх.

Пачулі гэта бацькі, што дачку сваю хацелі аддаць замуж за багатага, і тут жа вяселле згулялі.

Прывёз хлопец маладую дадому. Бачыць яна, нешта ж хата надта маленькая ды цёмненькая ў яе мужа. І пытаецца:

— Чаго ж гэта ты мяне ў гэтую хатку прывёз?
— Гэта і ёсць мае харомы, — засмяяўся муж.
— А лаўка, млын ды бровар дзе?
— Вунь мой млын, — паказаў муж на жорны, што стаялі ля парогу. — А бровар, ці як некаторыя ў нас завуць, самагонны апарат — у сенцах. А на лаўцы ж ты сама сядзіш...

**Б. Сачанка**

I гэтак б'юць сусветныя рэкорды.

### БЕРНАРД ШОУ

Вялікі англійскі пісьменнік Бернард Шоу сустрэўся з чалавекам, які быў незвычайна тоўсты. Глянуўшы на хударлявага Шоу, таўсцяк заўважыў:

— Вы выглядаеце так, што можна падумаць, быццам краіна галадае.

— А глянуўшы на вас, можна падумаць, што вы з'яўляецеся прычынай гэтага бедства, — адказаў Шоу.

### ПЕРАД БОЕМ У В'ЕТНАМЕ

Лейтэнант звяртаецца да маладога салдата:

— У вас ёсць якое-небудзь жаданне, Томсан?

— Так, сэр... Я хацеў бы дагледзець да канца вельмі цікавы сон, як я жывы вяртаўся адсюль дадому.

### ХІБА РАЗБЯРЭШ...

— Трахім, ідзі забяры дзіця з вуліцы, — звяртаецца жонка да мужа.

Трахім пайшоў. Аж бачыць — там цэлы гурт дзяцей у мячык гуляюць. І ўсе аднолькава замурзаныя.

— Васіліна, — заве муж, — хадзі пакажы, katoрае тут наша — каторае браць трэба.



— Яніна, Валя, Вера, Ніна, Марыся, Оля, Ева, Люська, Зоська, Шурка, Надзя.

### ХТО МАЦНЕЙШЫ

— Дзядзька Трахім! Кажуць, вы вельмі моцны.
— А як жа! Сам бугая падымаю.
— Тады можа б вы нам дапамаглі плуг ускінуць на машыну?
— Э, не! Вы прасіце кума Юхіма, ён мацнейшы за мяне.



— Ты толькі паглядзі, якія кароткія панчохі ў нас робяць.

## Te opolskie dziouchy

Te opolskie dziouchy,
wielkie zalotnice
kazały se poszyć
czerwone spódnice.

Sza, la, la
Sza, la, la
Sza, la, la
kazały se poszyć czerwone spódnice.

Te opolskie dziouchy —
wielkie paradnice
kazały se poszyć
czerwone spódnice.

Sza, la, la
Sza, la, la
Sza, la, la
kazały se poszyć czerwone spódnice.

Czerwone spódnice,
białe zapaśnice,
zańdom na muzyka —
stoją jak maślnice.

Sza, la, la — itd.

Stoją jak maślnice,
gryfnie wyglądają
ale w tańcu chłopcom
po butach deptają.

Sza, la, la — itd.







### Просьба

У штаце Тэхас (ЗША) ёсць маленькі гарадок Масква. З-за славутага імя горада жыхарам яго даводзіцца сустракацца з рознымі нязручнасцямі. У прыватнасці, многія пісьмы, адрасаваныя сюды з іншых штатаў, адпраўляюцца перш за ўсё ў сталіцу СССР і толькі потым трапляюць па прызначэнню.

Гарадскому паштмайстру надакучыла даваць тлумачэнні скаржнікам. І тады прыйшла ў галаву даволі арыгінальная думка. Ён звярнуўся з просьбай угаварыць Савецкі Саюз змяніць назву сваёй сталіцы.

### У дапамогу... бюракратам

У ЗША паявілася новая грамадская арганізацыя са штаб-кватэрай у горадзе Вашынгтоне. Яе назва: Нацыянальная асацыяцыя бюракратаў. Днямі члены арганізацыі прынялі статут, які вызначае мэты і задачы ўноў створанага таварыства.

«Мы хочам, — сцвярджаецца ў гэтым дакуменце, — дапамагчы тым, хто не да канца разумее этыку бюракратыі, і дабіцца прызнання тых вялікіх, але не апетых герояў — членаў урада, людзей дзелавога і акадэмічнага свету, якія сваёй бяздзейнасцю перашкодзілі ажыццяўленню многіх спраў і тым самым папярэдзілі бясконцае мноства памылак».

Асацыяцыя мае намер ва ўрачыстай абстаноўцы аб'явіць імя самага славутага «бюракрата года ў ЗША», пасля чаго яна «намеціць рад мерапрыемстваў» па арганізацыі разгалінаваных камітэтаў па ўсёй краіне.

### Неадрамантаваныя сем'і

«Усяго налічваецца ў нас больш 30 сем'яў, якія патрабуюць капітальнага рамонту».

(З даведкі)




**Калі даводзіцца адступаць, задняя становіцца першымі.**